


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 40—41 (270—271) Нядзеля 9 кастрычніка 1955 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Канец юстыцыялізму

**(На маргінэсе аргэнтынскае рэвалюцыі)**

16-га чэрвеня гг. рэжым Пэрона ў Аргэнтыне атрымаў першы паважны маральны ўдар. Праўда, загадзя падрыхтоўваная апазыцыяй рэвалюцыя, у гэныя чэрвеньскія дні была здушаная ў сваім зародку, аднак, як пазьнейшыя падзеі даказалі, якраз гэны выступ стаўся пачаткам таго шляху што прывёў да ейнага канца. 16 жніўеня — другі выступ, і, нарэшце 16 верасьня — трэцьці й наважальны, у выніку якога рэвалюцыя перамагла.

Хуткі, запраўды амэрыканскі рытм падзеяў з аднаго боку і адсутнасьць падтрымкі рэжыму арміяй і насельніцтвам з другога — прывялі да таго, што найбольш грозная рэвалюцыя на працягу ўсяе гісторыі аргэнтынскае дзяржавы, не ператварылася ў зацяжную грамадзянскую вайну, а закончылася на працягу некалькіх, хоць і крывавых, дзён.

Наважальную ролю ў збройнай перамозе рэвалюцыі згуляў ваенны флёт. Рэванжуючыся за свой няўдалы выступ 16 чэрвеня, ён гэтым разам здэцыдавана выступіў супраць рэжыму, і якраз ягоны ўльтыматум з пагрозай бамбардаваньня Буэнос Айрэсу, беспасярэдня прымусіў Пэрона й урад скапітуляваць. Распачлівая абарона акружаных у сталіцы колькіх сот фанатычных пэраністых, не магла ўжо заважыць на ходзе падзеяў.

Пасьля колькіх трывожных дзён аргэнтынскія масы запоўнілі вуліцы гарадоў і з крыкамі «Жыве Свабода!» ды пад гукі нацыянальнага гымну й «Марсыльезы» з энтузіязмам сьвяткавалі перамогу рэвалюцыі.

Спынімся цяпер крыху на асноўных прычынах, што прывялі да рэвалюцыі й змусілі Пэрона, уцякаць за межы свае краіны.

Рэжым, ці фактычна праграма, якую Пэрон праводзіў у жыцьцё называлася **юстыцыялізмам.** Як і кажны — **ізм,** юстыцыялізм кідаў гучныя й прыцягальныя лёзунгі, зь якіх асноўнымі былі: сацыяльная справядлівасьць, эканамічная незалежнасьць і палітычны сувэрэнітэт. Фактычна гэта быў рэжым, як некаторыя яго называлі, пасярэдні «між капіталізмам і камунізмам», і, прынамсі ў тэорыі, ён прадугледжваў зьнішчэньне эксплёатацыі чалавека чалавекам, якая йснуе пры капіталізьме і эксплёатацыі чалавека дзяржавай, якая йснуе пры камунізьме.

У праграме юстыцыялізму свабода, собскасьць, капітал, і г. д. зьяўляюцца «індывідуальнымі добрамі ў сацыяльных функцыях», і гэтая рыса набліжае яго значна, хаця таксама толькі тэарытычна, да італьянскага фашызму. У запраўднасьці-ж, аднак, праграма юстыцыялізму ня мела ні тае лёгікі ні тае стройнасьці ў пабудове, як скажам, праграма фашызму ці камунізму і зьяўлялася толькі мешанінай высокіх ідэялаў, жаданьняў, утопіяў і г. д.

Таксама, як і іншыя таталітарныя рэжымы, юстыцыялізм у сваім засьляпленьні імкнуўся навет замяніць сабою да пэўнае ступені рэлігію. Але трэба прызнаць, што ён нічуць ня быў падрыхтаваны да гэтае ролі. Апрача адсутнасьці яснае й спрэцызаванае праграмы, яму не хапала таксама й тэарэтыкаў ды староньнікаў з інтэлектуальнага асяродзьдзя. У выніку, ён ня змог падняцца вышэй прымітыўнае стадыі сацыяльна-эканамічнае дэмагогіі. Пры больш-жа ўніклівым разглядзе розных дэмагагічных ходаў Пэрона, прыкрываных шляхотнымі лёзунгамі палепшаньня долі народу, увядзеньня сацыяльнае справядлівасьці й г. д. відаць, што дыктатару перадусім хадзіла аб сваё собскае імя, аб сваю славу. Успомненыя лёзунгі былі для яго сяродкамі да асягненьня свае мэты — здабыцьця папулярнасьці.

Да ўсяго гэтага даходзіла яшчэ агульная карупцыя вярхоў ды бліжэйшых супрацоўнікаў Пэрона, што, зразумела, ніяк не магло дадатна адбівацца на прэстыжы самога рэжыму. У значнай меры адмоўна падзейнічалі і няўдачы шырока заплянаванай эканамічна-гаспадарчай перабудовы краіны. Імкненьне да ўнезалежненьня эканомікі ад чужых капіталаў — рэч сама па сабе зусім зразумелая, але праводзіць яго мэтадам Пэрона, амаль дэкрэтамі, не заўсёды дае чаканыя вынікі. Наагул цэлы шэраг нерацыянальных гаспадарчых мерапрыемстваў вёў краіну да відавочнага эканамічнага крызысу. Калі-ж на словах даюцца вялікія абяцаньні, а ў практыцы атрымоўваецца адваротнае, дык ясна народ ня можа далей верыць і застаецца толькі падпарадкаваным, зразумела, чакаючы на нагоду вымаўленьня гэтага падпарадкаваньня.

І нарэшце — такі непалітычны ход, як складаньне віны за эканамічныя няўдачы на рэлігію, а ў сувязі з гэтым і перасьлед яе. Нельга забывацца, што навет не бяручы на ўвагу рэлігійных настрояў самога насельніцтва, трэба лічыцца з фактам, што ўсе вышэйшыя аргэнтынскія ахвіцэры паходзяць із старых, традыцыйна каталіцкіх сем'яў. Экскамунікаваны-ж Пэрон у іхных вачох аўтаматычна станавіўся ворагам іхнае веры.

Такім чынам, як бачым, заместа здабыцьця папулярнасьці, сваімі няўдалымі ходамі Пэрон ня толькі зразіў да сябе бальшыню насельніцтва, але з асноўных групаў яго зрабіў адкрытых ворагаў. У гэты-ж самы час аргэнтынская апазыцыя паставіла перад сабой ясныя мэты й сяродкі палепшаньня будучыні якія сыстэматычна ўсімі магчымасьцямі старалася давесьці да ведама шырокіх масаў. А дзеля гэтага ўжо з самага пачатку рэвалюцыі суадносіны сілаў сталіся няроўнымі: з аднаго боку слабы й разгублены ўрад Пэрона зь ня вельмі пэўнымі пра-ўрадавымі аддзеламі ды прыхільнікамі дзяржаўнага прафсаюзу, з другога-ж асноўныя сілы арміі й флёту ды бальшыня насельніцтва, хоць апошняе апрача маральнае падтрымкі, беспасярэдняга ўдзелу ў рэвалюцыі фактычна ня брала.

Вось тыя асноўныя прычыны, якія паклалі канец юстыцыялізму Пэрона ў Аргэнтыне. Парагвай афіцыяльна прызнаў права азылю былому дыктатару, які заявіў, што ў будучыні ня зьбіраецца займацца палітычнай дзейнасьцяй.

Як далей будзе прадстаўляцца нутраная сытуацыя Аргэнтыны, цяжка сказаць. Вядома толькі, што новы часовы прэзыдэнт, генэрал Eduardo Lonardi быў заўсёды староньнікам дэмакратычных ідэяў. Ужо ў першых днях абняцьця ўлады ён абвесьціў, што ягоны часовы ўрад правядзе ў як найхутчэйшым часе ўсе неабходныя мерапрыемствы для ўстанаўленьня тых правоў, што выцякаюць з дэмакратычнага ладу рэспублікі.

**А. Галубіцкі**

# Запраўдны сэнс савецкае амнэстыі

Абвешчаная прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету СССР 18 верасьня сёлета амнэстыя для «калябарантаў» зь гітлераўскім акупантам, што знаходзяцца ў савецкіх турмах і лягерах, як і на эміграцыі, ня была для нікога на Захадзе неспадзеўкай. Гэта было лёгічным працягам заініцыяванае й кіраванае савецкімі ворганамі бясьпечнасьці афэры пад назовам г. зв. «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну» і мела свой прэцэдэнс у форме такіх-жа амнэстыяў у некаторых сатэлітных краінах. Тым ня меней, завуаляваная мэта гэтае амнэстыі, падыктаванай, між іншым, «прынцыпам гуманнасьці», як афіцыяльна гаворыцца ў законе аб амнэстыі, ды вялікая прапагандовая шуміха, што ў сувязі з гэтым разгарнулася, змушае нас яшчэ раз затрымацца над гэтым пытаньнем.

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» пісалася, што апошняя амнэстыя ёсьць восьмай з чаргі амнэстыяй ад часу захопу ўлады бальшавікамі і другой у дачыненьні да палітычных эмігрантаў. Праўда, пасьля абвешчаньня сямёх папярэдніх амнэстыяў нейкая колькасьць зьняволеных, якіх яна датычыла, была апынулася на волі. Але ўсе гэныя амнэставаныя ў кароткім часе былі ўзноў арыштаваныя й зьнішчаныя за іншыя праступкі, якіх яны ніколі не зрабілі. Дык ці-ж ёсьць хоць малая гарантыя, што гэтак ня станецца з амнэставанымі на падставе апошняй амнэстыі? Няма абсалютна ніякай! Наадварот, мы, добра ведаючы жахлівую сыстэму бальшавіцкага тэрору й бяздонны хвальш ды цынізм савецкага правасудзьдзя, зьяўляемся цьвёрда перакананымі, што ўсе звольненыя на аснове цяперашняй амнэстыі і ўсе тыя, што маглі-б у яе паверыць і вярнуцца з эміграцыі на бацькаўшчыну, гэта жалюгодныя кандыдаты для хуткага папаўненьня савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў. Як толькі міне прапагандовая гарачка «за паварот на радзіму», савецкія ворганы бясьпечнасьці патрапяць прыпісаць амнэставаным недакананыя імі іншыя праступкі, каб іх арыштаваць і зьнішчыць.

Трэба не забывацца, што на працягу існаваньня Савецкага Саюзу выдавалася шмат урадавых законаў і партыйных пастановаў, якія паводля свайго слоўнага зьместу, быццам мелі даваць тыя ці іншыя палёгкі, мелі на мэце дабро для людзей і народаў, як унутры Савецкага Саюзу, гэтак і вонках яго. Але даслоўна ніводзін закон або пастанова ніколі ня выконваліся. Яны служылі толькі савецкім прапагандовым мэтам, былі пушчаньнем туману ў вочы, каб лягчэй было адурманіць людзей і рабіць над імі праступныя экспэрымэнты. Гэтак калі падчас апошняй вайны Савецкі Саюз завіс над пропасьцяй і за ўсякую цану патрабаваў помачы заходніх дзяржаваў, ён тады ўрачыста абвесьціў аб разьвязаньні камінтэрну й спыненьні ўсякай падрыўной дзейнасьці ў заходніх краінах. Але на справе гэтая агентурная дзейнасьць Крэмля, ведзеная пры помачы ягоных пятых калёнаў на Захадзе, ані на часіну ня спынілася, а пасьля заканчэньня вайны камінтэрн і афіцыйна адрадзіўся ў форме камінформу. Паводля літары савецкіх законаў, калектывізацыя сельскае гаспадаркі — гэтае найжахлівейшае зло й няшчасьце савецкага сялянства — праводзілася ў срога «дабравольным» парадку. Але-ж нікому не сакрэт, што гэтая «дабравольнасьць» была прычынаю аграбленьня й высылкі ў лягеры прымусовае працы многіх мільёнаў сялян, што хацелі скарыстаць з гэтай «дабравольнасьці».

Ня месца тут гаварыць аб іншых падобных урадавых законах і партыйных пастановах. Іхны запраўдны сэнс быў заўсёды адваротны да іхнага слоўнага зьместу. Гэткі-ж сэнс і закону аб амнэстыі.

Але дапусьцім на хвіліну, што гэтым разам бальшавікі перасталі быць бальшавікамі і датрымаюць сваё слова. Амнэстыя, між іншым, звальняе з турмаў і канцэнтрацыйных лягераў усіх засуджаных за супрацоўніцтва зь Немцамі да дзесяці год. Але-ж гэта зьдзек і насьмешка! За супрацоўніцтва з акупантам у Саветах судзілі ў 1944 годзе, бо ў гэтым годзе ўжо ня было Немцаў на савецкай тэрыторыі, а найпазьней у 1945 годзе, калі скончылася вайна. Ад гэтага часу ўжо мінула дзесяць год, дык і выпускаць з турмаў і лягераў тады няма каго. Гэты пункт закону аб амнэстыі, які поўнасьцю дароўвае віну засуджаным да дзесяцёх год, наглядна паказвае, што савецкія верхаводы навет як сьлед не прадумалі свайго закону і дапусьцілі яўную недарэчнасьць. А гэта яшчэ адзін довад, што й сама амнэстыя ня была задуманая сур'ёзна.

Няма найменшага сумлеву ў тым, што амнэстыя мае адыйграць ролю пасткі, хітра застаўленай на палітычных эмігрантаў з Савецкага Саюзу, якіх ёсьць поўна ў кажнай краіне вольнага сьвету. Гэтыя эмігранты зьяўляюцца на Захадзе жывымі сьветкамі ўсіх бальшавіцкіх злачынстваў, дакананых над народамі Савецкага Саюзу. Яны дакладна інфармуюць Захад аб запраўдным палажэньні ў Савецкім Саюзе, эфэктоўна супрацьдзеюць камуністычнай прапагандзе і гэтым самым робяць выдатны ўплыў на публічную апінію заходніх грамадзянстваў. Вось чаму эміграцыя з Савецкага Саюзу зьяўляецца страшнай і небясьпечнай для бальшавікоў, што яны не шкадуюць вялікіх высілкаў і аграмадных грошаў, каб хоць частку яе заманіць дамоў і там зьнішчыць, а тых, што ня пойдуць на гэтую прыманку, застрашыць і прымусіць маўчаць.

Усе гэтыя бальшавіцкія мерапрыемствы й намаганьні — гэта распачлівы бой супраць эміграцыяў, мэтай якога ёсьць пазбавіць яе вялікай пачэснай ролі шырэньня ў вольным сьвеце праўды аб Савецкім Саюзе ды прамаўляньня церазь зялезную заслону да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне.

На працягу шасьцімесячнай дзейнасьці ўсходнябэрлінскага «Камітэту за паварот на бацькаўшчыну» толькі лічаныя адзінкі паслухалі яго заклікаў і вярнуліся на бацькаўшчыну. Як потым выявілася, у бальшыні гэта былі замаскаваныя агенты савецкай разьведкі, якія на загад вярнуліся ў Савецкі Саюз, каб гэтым паказаць, што заклікі гэнага Камітэту ня падаюць у пустую. Аснаўная-ж маса эмігрантаў ня толькі не па-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Трэба супрацьдзеіць

У папярэднім нумары «Б-ны», гаворачы аб бальшавіцкім наступе на эміграцію, мы прыйшлі да высьнаву, што падставаў да трывогі няма. Гэта тымчасам пацьвердзілі й урадавыя нямецкія колы: у нядзелю 25 жніўеня, нямецкае радыё ўспакойвала эмігрантаў, прыпамінаючы, што права палітычнага прыстанішча запэўнена канстытуцыяй Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі. Гэтаксама Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму заняў ясную пазыцыю, абяцаючы эмігрантам далейшую падтрымку (Гл. Заяву Старшыні АКВБ і рэпартаж з прэсканфэрэнцыі ў папярэднім нумары).

Аднак сьцьвердзіць, што беспасярэдняй небясьпекі няма, яшчэ мала. Бальшавіцкай акцыі трэба супрацьдзеіць. Мы, бязумоўна, пэўныя, што ядро нашай эміграцыі здаровае, але ўсё-ж могуць знайсьціся адзінкі, што заломяцца пад ціскам тугі па Бацькаўшчыне ды ўяўнае беспэрспэктыўнасьці далейшага прабываньня на чужыне. У першую чаргу маем тут на ўвеце нашых суродзічаў, раськіданых па розных лягерох і пасёлках Нямеччыны й Аўстрыі, часта без належнае працы. У бальшыні гэта людзі, якія з тых ці іншых прычынаў былі адкінутыя ад далейшае эміграцыі. Вялікая частка іх пацярпела ад зусім беспадстаўных даносаў — кажны з нас памятае добра той няслаўны пэрыяд.

Ня гледзячы на тое, што ўзровень жыцьця эмігрантаў у Нямеччыне шмат папраівіўся за апошні час, асабліва з гледзішча на жыльлёвыя ўмовы, нельга аднак лічыць сучасны стан нармальным: Нямеччына ўсё яшчэ нагадвае велізарны пераходны лягер.

Мы верым у шчырасьць сымпатыяў заходняга сьвету да эмігрантаў. Верым таксама, што ён нам дапаможа разьбіваць бальшавіцкую атаку, бо гэта ў канчальным выніку таксама і ў ягоных інтарэсах. Вось-жа першым чынам, **трэба умагчыміць далейшую эміграцыю тым асобам, якія гэтага жадаюць.**

Як ведаем, Задзін. Штаты прынялі свайго часу закон, які прадбачваў прыйма 209 тысяч эмігрантаў на працягу двух гадоў. Аднак дзьве перадумовы — мець забясьпечаную кватэру й працу амэрыканскім грамадзянінам і быць найменш два гады вольным ад «камуністычных уплываў» — спрычынілася да таго, што выехала толькі крыху больш за 30 тысяч асобаў. Паўстае небясьпека, што тэрмін закону пройдзе, і бальшыня прадбачанага кантынгенту не пасьпее выэміграваць. Прэз. Айзэнгаўэр ужо дамагаўся г. зв. «лібэралізацыі» закону, але пакульшто бяз выніку, бо кангрэс баіцца... камуністычных агентаў. Аднак ёсьць канкрэтныя надзеі: нядаўна Старшыня Юрыдычнай Камісіі амэрыканскае Палаты Рэпрэзэнтантаў, сп. Сэлер аб'яжджаў Эўропу, каб пазнаёміцца з становішчам эмігрантаў. Ён прыйшоў да высьнаву, што трэба якнайхутчэй прысьпешыць эміграцыю, бо далейшае затрымоўваньне эмігрантаў, як ён выразіўся, ёсьць «вадой на савецкі млын». Перад ад'ездам у Задз. Штаты сп. Сэлер заявіў, што ён зробіць усё магчымае, каб унармалізаваць эміграцыйны працэс. Мы можам толькі пажадаць ад усяго сэрца, каб гэта яму ўдалося.

Зь іншага боку, **нашы грамадзкія арганізацыі у Злучаных Штатах павінны дагледзіць, каб кажны сумленны Беларус, што жадае эміграваць, атрымаў патрэбны «ашуранс».** «Б-на» падавала ўжо, куды трэба зварочвацца ў такім выпадку.

Гэта ўсё не зьяўляецца аднак яшчэ супрацьдзеяньнем. Ужо пара пачаць актыўную, арганізаваную контракцыю, разьбіваючы фальшывыя бальшавіцкія цьверджаньні. У той час, калі Бэрлінскі камітэт Міхайлава пайшоў аж на адмысловае выданьне свае газэткі ў беларускай мове, наша эміграцыя дагэтуль не супрацьставіла нічога друкаванага, а матар'ялаў-жа хапае. Расейцы маюць аж некалькі пэрыядычных выданьняў, Украінцы маюць сваё таксама, хоць дасюль Бэрлінскі камітэт ня выдае свайго воргану паўкраінску.

Трэба было-б таксама наладзіць аб'езд эміграцыйных асяродкаў з адпаведнымі інфармацыямі, а навет праграмай. Аб мэтазгоднасьці й патрэбе гэтага хіба не даводзіцца гаварыць.

Як заўсёды, мы натыкаемся на адну й тую-ж цяжкасьць: недахоп матарыяльных магчымасьцяў.

Але-ж ці не адну ўжо цяжкасьць нам удалося перамагчы, калі мы толькі дружна й наважана яе штурмуем?

Узмоцненая акцыя супраць беларускай эміграцыі даводзіць, што бальшавікі належна ацэньваюць сілу нашага нацыянальна-вызвольнага руху. Пара, каб гэтак-жа належна ацаніў яго й вольны заходні сьвет.

**Ул. Немановіч**

# Новы дзяржаўны гымн у БССР

Згодна з паведамленьнем менскага радыя 25 верасьня сёлета, Беларуская ССР будзе мець свой собскі дзяржаўны гымн, пачынаючы ад 1 кастрычніка 1955 году. Вестка гэтая была пададзена ў форме «ўказу» Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, датаванага 24 верасьня. Адначасна радыё паведаміла, што беларускія савецкія газэты ў сваіх перадавіцах аднагодна камэнтуюць гэтую падзею, як «акт вялікага значэньня, які сьветчыць аб далейшым умацаваньні беларускай савецкай дзяржаўнасьці». Нажаль, мы яшчэ ня можам падаць дакладнага тэксту гымну ні прозьвішча ягонага аўтара (музыку гымну склаў кампазытар Сакалоўскі, знаёмы шмат каму з нашых старэйшых дзеячоў). Аднак песьня гэтая ня новая, бо яна выконвалася ўжо ў заключным канцэрце Беларускае Дэкады ў Маскве ў месяцы лютым сёлета пад загалоўкам «Мы — Беларусы».

Зацьверджаньне новага дзяржаўнага гымну БССР, пэўна-ж, — «акт вялікага значэньня». Як і абвешчаньне самое БССР у 1919 годзе, ён сьветчыць аб замацоўваньні ідэі беларускае дзяржаўнасьці, сілай і тэрорам накіраванае бальшавікамі ды ўсё накіроўванае ў расейска-савецкае рэчышча.

Камэнтаваньнем гэтае падзеі ды ўдакладненьнем вестак, трэба спадзявацца, займецца й «Б-на» ў сваіх далейшых нумарох.

**А. Б.**

**Ад Рэдакцыі. Ніжэй зьмяшчаем артыкул ведамага казацкага дзеяча й журналістага В. Г. Глазкова. Артыкул гэты, зь вельмі багатай бібліяграфіяй, быў надрукаваны ў турэцкім зборніку Інстытуту для Вывучэньня СССР «Дэргі» № 2. З тэхнічных прычынаў мы ня можам падаваць поўнае бібліяграфіі, і таму абмяжоўваемся толькі да галоўных крыніцаў.**

**Нашаму чытачу будзе цікава пазнаёміцца зь гісторыяй аднаўленьня дзяржаўнасьці народу, зь якім нас лучаць вязі сяброўства ды супольнасьць вызвольных імкненьняў.**

☆

В. Г. Глазкоў

# Адраджэньне Казацкае Дзяржавы ў 1917—1921 гг.

Ня гледзячы на русыфікацыю і прыгнёт у царскай Расеі, Казакам усё-ж удалося да пачатку рэвалюцыі 1917 г. захаваць пэўную долю астаткаў свае папярэдняе дзяржаўнасьці, зьнішчанай царом Пётрам I. Дзякуючы гэтаму Казакі адносна лёгка і бязь ніякіх нутраных ускладненьняў аднавілі яшчэ пры Тымчасовым Урадзе ў Расеі сваю поўную нутраную незалежнасьць. Спрыяла гэтаму й тое, што ў Казакаў ніколі не паміралa ідэя страчанае імі свабоды, што, апрача астаткаў папярэдняе казацкае дзяржаўнасьці, якая захавалася да пачатку рэвалюцыі ў выглядзе пэўнае нутраное аўтаноміі, яны моцна ўсьведамлялі сваю апрычонасьць ад Расеі і навет расейскага народу. Гэта заўважылі ня толькі ўрадоўцы з цэнтру, але таксама і кіраўнікі расейскага народніцтва й рэвалюцыйнага руху, пачынаючы ад Гэрцэна, Огарэва й канчаючы Плеханавам, што пабылі на казацкіх тэрыторыях. Навет у Дзяржаўных Думах Казакі мелі сваю собскую казацкую фракцыю дэпутатаў, куды ўваходзілі літэральна ўсе выбраныя казацкім насельніцтвам дэпутаты — ад скрайных правых да сацыялістых уключна. Характэрна, што апрача Казакаў, у Дзяржаўнай Думе толькі Палякі мелі сваю собскую фракцыю, усе-ж іншыя дэпутаты нерасейскіх народаў ўваходзілі тады ў фракцыі агульнарасейскіх палітычных партыяў.

Рэвалюцыю 1917 г. Казакі з самага пачатку разглядалі не як нагоду да разьвязваньня тых ці іншых сацыяльных пытаньняў, не як магчымасьць для замены аднаго рэжыму іншым, ці нагоду да рабункаў і разбояў, але яны бачылі сэнс і значэньне рэвалюцыі ў атрыманьні страчанага права быць сабе гаспадаром і кіраваць сваім лёсам. Вось чаму Казакі станоўка не хацелі ўмешвацца ў нутраныя справы расейскага народу, зусім ня бралі ўдзелу ў ягонай клясавай барацьбе, пакідаючы яму самому разьвязаньне ўсіх гэтых пытаньняў, як і форму свайго кіраваньня. Казакі ясна сабе ўсьведамлялі, што іхнае заданьне ляжыць не ў барацьбе за тую ці іншую «усерасейскую» ці «усесаюзную» ўладу, а ў змаганьні за разьняволеньне й вызваленьне сваіх родных Казацкіх Зямляў, у адраджэньні свайго собскага народнга жыцьця, у абароне свайго права свабодна кіраваць лёсам і доляй сваіх Краёў.

У тым часе, як у цэнтры Расеі ўзяліся за «паглыбляньне» «вялікай і бяскроўнай» рэвалюцыі, калі Расея апускалася ў прадоньне хаосу й анархіі, Казакі, ня гледзячы на двухсотгадовае прымусовае прабываньне ў складзе расейскае імпэрыі, з самага пачатку рэвалюцыі сваёй усенароднай воляй адраджалі векавыя формы свайго дзяржаўнага існаваньня. Пры гэтым усё гэта адбывалася на вачох ня толькі ўсяе расейскае рэвалюцыйнае грамадзкасьці, але й самога Часовага Ўраду.

Як і іншыя народы царскае Расеі, Казакі адразу-ж сталі на шлях поўнага самаакрэсьленьня й адраджэньня сваей казацкай дзяржаўнай незалежнасьці. Ува ўсіх праявах волі гэтых народаў, пры ўсіх выступах прадстаўнікоў гэтых народаў, Казакі зьяўляюоца неадменнымі ўдзельнікамі, нязьменна астойваючы неад'емнае права свайго народу на свабоду й ягоную дзяржаўную незалежнасьць. На першым зьезьдзе ўсіх народаў былай царскай Расеі ў верасьні 1917 г. у Кіяве прыймалі ўдзел прадстаўнікі Казакаў, а зьезд тады аднагалосна пастанавіў: «вітаць адраджэньне Казакамі свае нацыянальнае свабоды» (Рэзалюцыя зьезду народаў у Кіяве 8—14 верасьня 1917 г., «Казачья жизнь», № 8, Нью Ёрк, 1953), «прызнаць казацтва самастойным народам, што склаўся ў асобных умовах гістарычнага быту, і што мае права на самастойнае існаваньне», усемагчыма падтрымліваць імкненьне Казакаў да наладжаньня свайго жыцьця на асновах самаакрэсьленьня», і «вітаць уступ Вольнага Казацтва ў сям'ю свабодных народаў, як паўнапраўнага сябры, зь якім будзем разам імкнуцца да асягненьня назначанай мэты» («Казачье Слово» — Официоз Донского Правительства. Софія, 1922, № 5).

Казакі ня толькі праклямавалі сваё права, але й адразу-ж праводзілі яго ў жыццьцё. Усё гэта адбывалася поўнасьцяй законным шляхам і ў выніку свабодна выражанае волі казацкага народу ў часе неаднаразовых агульных, беспасярэдніх, тайных і свабодных выбараў, а значыць базавалася на ясных і акрэсьленых прынцыпах дэмакратызму.

Мы ня будзем спыняцца на шматлікіх фактах выяўленьня казацкае народнае волі ў цэлым шэрагу зьездаў, канфэрэнцыяў, кангрэсаў, на якіх былі прадстаўленыя дэлегаты насельніцтва Казацкіх Земляў, і на якіх ня раз выражалася гэтая нязьменная казацкая воля да свабоды й адраджэньня свае казацкае дзяржаўнасьці. **Мы зьвернем увагу толькі на незапярэчныя факты ўсенароднага волявыяўленьня казацкага народу ў часе выбараў сваіх народных прадстаўнікоў у казацкія парлямэнты** (вайсковыя кругі й рады). Гэтая выбары забясьпечвалі шырокі ўдзел у іх усяго насельніцтва Казацкіх Земляў, давалі запраўднае прадстаўніцтва з удзелам у выбарах усіх жыхароў абодвых полаў, ад трону, а значыць 19 траўня 1917 г. цы на асьвету й маёмасны цэнз.

На Доне такія ўсеагульныя, роўныя, беспасярэднія тайныя й свабодныя выбары былі праведзеныя ўжо цераз шэсьць тыдняў пасьля адрачэньня цара ад трону, а знацыць 19 траўня 1917 г. У выніку іх было выбрана ад станіцаў, местаў і вайсковых аддзелаў, што знаходзіліся яшчэ на фроньце, 700 дэпутатаў Вайсковага Кругу-Парляманту («Донская Летопись, выд. Донскай Гіст. Камісіі, Бэльград, 1923, том II, б. 56). Характэрна, што ўся праца гэтага парляманту была моцна абаперта на традыцыі апошняга свабодна выбранага Вайсковага Кругу, аб чым з асаблівай яснасьцяй і выразнасьцяй заявіў пры адкрыцьці паседжаньняў Кругу ягоны старшыня праф. М. П. Богаеўскі наступнымі славамі: «Абвяшчаю, што паседжаньне Вайсковага Кругу, нарушанага воляй маскоўскага цара Пётры I, **працягваецца...**» («Донская Летопись, т. II, б. 76.).

Гэты парлямант, сэсія якога трывала ад 28 траўня да 19 чэрвеня 1917 г. «лічыў сябе поўнасьцяй поўнапраўным сувэрэнным гаспадаром Дону, што прызнаваў за сабой права **самастойна** кіраваць усімі пытаньнямі казацкага жыцьця» («Д. Л.», т. I, б. 112). Ня гледзячы на існаваньне цэнтральнае ўлады, гэты парлямант адраджаў, ня пытаючыя санкцыяў расейскага ўраду, усе атрыбуты свае сувэрэннае казацкае ўлады: Вайсковы Атаман-Прэзыдэнт, Урад, канстытуцыю, сьцяг, гымн, гэрб, армію, свае фінансы, свае законы. Вайсковы Круг, выбраўшы Вайсковага Атамана-Прэзыдэнта ген. А. М. Каледзіна й Вайсковы Урад, абвесьціў, што ён бярэ на сябе сябе ўсю ўладу ў межах Дону.

Трэба адцеміць, што у гэты час ніхто зь нерасейскіх народаў, апрача Фінаў і Палякаў, не заяўлялі аб сваім поўным разрыве з Расеяй. Некаторыя яшчэ марылі аб стварэньні новай Расеі на шырокай фэдэратыўнай базе. Такія настроі былі тады й сярод Казакаў. I Вайсковы Круг — Парлямант на сваёй першай сэсіі прыняў праект закону аб фэдэрацыі з Расеяй і прадставіў яго Часоваму Ураду, які, аднак, адхіліў гэты праект («Д. Л.», II).

Бяручы, якраз, на ўвагу магчымасьць стварэньня такое фэдэрацыі, казацкія палкі прынялі ўдзел у здушэньні першага збройнага паўстаньня бальшавікоў у Петраградзе ў сярэдзіне ліпеня 1917 г., калі ўсе расейскія вайсковыя адзінкі, што там знаходзіліся, уключаючы й палкі гвардыі, наважана адмовіліся выступаць супраць паўстаўшых бальшавікоў. Такім чынам, толькі дзякуючы Казакам паўстаньне бальшавікоў было здушана (Троцкий Л. «Как вооружалась революция», т. I, б. 34.). Казакі мелі ў гэтай акцыі шмат ахвяраў, але й пасьля гэтага Часовы Урад «у знак удзячнасьці» адмовіўся прызнаць казацкі праект аб фэдэратыўным уладжаньні новай Расеі.

Калі Часовы Урад быў заменены новай расейскай уладай — бальшавікамі, дык Атаман-Прэзыдэнт А. М. Каледзін і Вайсковы Урад абвесьцілі поўную дзяржаўную незалежнасьць Дону, што аднадумна пацьвердзіў скліканы 10 сьнежня 1917 г. Вайсковы Круг-Парлямант. Гэтую дату лічаць ня толькі самі Казакі за дату поўнага адраджэньня сувэрэннасьці свае дзяржавы, але яе прызнаюць і аб'ектыўныя гісторыкі, у тым ліку і знаток казацка-расейскіх узаемадачыненьняў — расейскі прафэсар гісторык С. Г. Свацікаў у сваёй капітальнай працы «Россия и Дон», б. 2-4, 576-579. Прызнаюць гэта й бальшавікі ў шматлікіх працах, што адносяцца да падзеяў таго часу. Прыкладам, пацьвярджаюць яны і ў «Большой Саветской Энциклопедии», т. 30, б. 604-644.

Бяручы на ўвагу вялізнае ваеннастратэгічнае й эканамічнае значаньне Казацкіх Земляў, савецкая ўлада, яшчэ не ўмацаваўшыся ў самой Расеі, пачынае вайну супраць адроджаных казацкіх дзяржаўных адзінак, што абвесьцілі сябе дэмакратычнымі рэспублікамі. I так пачалася казацка-бальшавіцкая вайна, што трывала больш за тры гады.

У канцы лютага 1918 г. бальшавіцкім войскам удаецца акупаваць амаль усю казацкую тэрыторыю. Аднак, дзякуючы масавым народным паўстаньням Казакаў і пры падтрымцы казацкае арміі, Казацкія Землі былі хутка вызваленыя ад бальшавікоў.

28 красавіка — 5 траўня 1918 г. склікаецца з свабодна выбраных ад станіцаў, местаў і вайсковых казацкіх аддзелаў «Круг Ратаваньня Дону», які йзноў выражаў казацкую народную волю і йзноў устанаўліваў парушаную савецкай уладай дзяржаўную незалежнасьць Дону. Гэты вайсковы Круг-Парлямант прыняў Асноўныя Законы — Канстытуцыю, выбраў новага Атамана-Прэзыдэнта, вядомага казацкага пісьменьніка, ген. П. Н. Краснова, свой казацкі ўрад, арганізаваў сваю казацкую армію й аднавіў свае заканадаўства. Пасьля таго, як мужнымі казацкімі войскамі, бязь ніякае дапамогі звонку, была вызвалена ўся казацкая тэрыторыя, І-га жнівеня 1918 г. адбыліся трэцьція з чаргі вольныя, усенародныя выбары дэлегатаў на Вялікі Вайсковы Круг-Парлямант, які быў скліканы на сваю першую сэсію 15-га жнівеня 1918 г. ў сталіцу Дону — Новачэркаск. Гэты Вялікі Вайсковы Круг прыняў і зацьвердзіў новую пашыраную канстытуцыю. У ейную аснову йзноў былі пакладзеныя непарушальныя прынцыпы казацкага народапраўства, прынцыпы дэмакратызму, аб чым так ясна сьветчыць ужо ейны першы параграф: «Усевялікае Войска Донскае зьяўляецца самастойнай дзяржавай, заснаванай на прынцыпе народапраўства» і параграф другі: «Вярхоўная й законадаўчая ўлада ў межах Войска Донскага належыць Вайсковаму Кругу-Парляманту» (Поўны тэкст канстытуцыі надрукаваны Донскай Гістарычнай Камісіяй у працы «Донская летопись», т. I, б. 301-317). Гэты парлямант устанавіў канчаткова формы й кампэтэнцыі ўсіх органаў казацкай сувэрэннай улады: парлямэнту, прэзыдэнта-атамана, ураду, арміі, суду ды зацьвердзіў сьцяг, гэрб, гымн і г. д.

Трэба адцеміць, што казацкія войскі змагаліся супраць бальшавікоў пад **собскім казацкім нацыянальным сьцягам,** а не пад расейскім, і змагаліся яны не за аднаўленьне старой «единой неделимой» Расеі, а за сваё права жыць у казацкай дзяржаве. Усё гэта бачылі собскімі вачыма дзесяткі тысячаў і расейскіх эмігрантаў, што ўцякалі тады на Казацкія Землі і ратавалі за плячыма Казакаў сваё жыцьцё. Цікава, што тады ніхто зь іх ня выступаў адкрыта супраць «казацкай самасьційнасьці», якая тады якраз выратавала ім жыцьцё. Самі-ж Казакі лічылі адраджэньне свае дзяржаўнасьці зусім натуральным зьявішчам і супраць гэтага ніхто з Казакаў ня выступаў, бачачы ў адраджэньні выяў агульнанароднага імкненьня ўсяго насельніцтва Казацкіх Земляў.

I на Кубані ў канцы красавіка склікаецца Кубанская Вайсковая Рада, якая таксама, як і Донскі Вайсковы Круг, выбірае свае казацкія органы ўлады **на Кубані: Вайсковага** Атамана, урад. Ужо 24 верасьня, значыць яшчэ да захопу ўлады бальшавікамі ў Расеі, другая сэсія Рады праклямавала Кубань **рэспублікай пад назовам «Кубанскі Край»,** прыймаючы пры гэтым першую канстытуцыю Кубанскага Краю, згодна якое на чале выканаўчае ўлады знаходзіцца Краёвы Урад і Вайсковы Атаман.

25-га кастрычніка (7 лістапада) 1917 г. бальшавікі захапілі ў свае рукі ўладу ў Петраградзе, а 26 кастрычніка кубанскі ўрад абвяшчае, што ён «прыймае на сябе ўсю паўнiню дзяржаўнай улады ў межах Кубанскага Краю». Гэтую пастанову ўраду пацьвердзіла скліканая 22.12.1917 г. Кубанская Краёвая Рада.

Пасьля гэтага, у студзені 1918 г. зноў адбыліся новыя выбары дэпутатаў ад усяго насельніцтва Кубані ў Кубанскую Краёвую Законадаўчую Раду. 16 лютага 1918 г. гэтая Рада абвяшчае Кубань самастойнай Кубанскай Народнай Рэспублікай (Проф. Ф. А. Щербина. История Кубанскаго Казачьего Войска).

Калі адбыліся новыя ўсеагульныя выбары ў Кубанскую Краёвую Законадаўчую Раду пасьля вызваленьня ўсёй тэрыторыі Кубані ад бальшавіцкае акупацыі, дык і новая Рада на сваёй сэсіі 5.12.1918 г. прымае больш пашыраную, за прыкладам Дону, канстытуцыю Кубанскай Народнай Рэспублікі.

Характэрна, што навет народная творчасьць зарэгістравала існаваньне Кубанскай Народнай Рэспублікі ў папулярным у гэныя часы «Яблачку»:

«И шумит Кубань водам Терека:
Я — республика, как Америка».

Усеагульныя й усенародныя праявы волі насельніцтва ў пытаньні адраджэньня казацкай дзяржаўнасьці былі і ў іншых Войсках-Рэспубліках. Каб не адцягваць увагі чытачоў дэталямі такога самага працэсу ў іншых Войсках-Рэспубліках, мы абмяжуемся толькі фактамі, прыведзенымі намі зь гісторыі самых больных казацкіх Войскаў-Рэспублікаў. Жадаючыя пазнаёміцца зь гісторыяй іншых казацкіх дзяржаўных адзінак, могуць знайсьці адпаведныя матар'ялы ў казацкіх і не-казацкіх аўтараў, што апісваюць гэтыя падзеі.

Змагаючыся супраць бальшавізму за народную волю і боронячы сваю бацькаўшчыну ад нападу бальшавіцкіх войскаў, Казакі адначасова праявілі моцнае імкненьне да поўнага аб'яднаньня ўсіх адроджаных казацкіх рэспублік у адно цэлае, у адну саюзную дзяржаву. Такое імкненьне было выказана ўжо з самага пачатку рэвалюцыі і ўжо тады пачалося ў форме ставарэньня Савету Саюзу Казацкіх Войскаў, пасьля Паўдзённа-Ўсходняга Саюзу, Дона-Каўкаскага Саюзу, Саюзу Дону, Кубані, Церака, горных і стэпных народаў і, урэшце, яно выявілася у скліканьні першага Вярхоўнага Казацкага Кругу-Парлямэнту ў студзені 1920 году ў Екацерынадары (Краснадары) і стварэньні саюзнае казацкае дзяржавы («Донская Летопись», т. II).

Імкненьне Казакаў да об'еднаньня адроджаных казацкіх дзяржаваў у адну саюзную ці фэдэратыўную дзяржаву вельмі добра ўсьведамлялі сабе й бальшавікі, якія побач зь імкненьнем перашкодзіць такому зьяднаньню, з свайго боку праводзілі аб'еднаньне створаных імі г. зв. казацкіх савецкіх рэспублікаў.

Першым іхным крокам было стварэньне 30 траўня 1918 году Кубанска-Чарнаморскай савецкай рэспублікі на скліканым у Екацерынадары 27 траўня 1918 году агульным зьезьдзе. Пасьля гэтага Цэнтральны Камітэт РКП(б) даручыў Орджэнікідзэ аб'яднаць Кубанскую, Церскую, Чарнаморскую, Стаўропальскую, а пасьлей і Донскую савецкія рэспублікі ў вадну Паўночна-Каўкаскую

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

## Запраўдны сэнс...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

верыла запэўненьням Камітэту, але ягонай яўна правакацыйнай дзейнасьці дала станоўкі адпор. Яна яшчэ болей змабілізавала свае сілы й павяла яшчэ больш станоўчае змаганьне з бальшавізмам за вызваленьне сваіх краінаў і народаў. Гэткім чынам эміграньты першы бой з бальшавікамі блiскуча выйгралі. Цяпер, з мамэнтам абвешчаньня амнэстыі пачалася новая фаза змаганьня бальшавікоў супраць эміграцыі і за эміграцыю. Мы маем усе падставы быць цьвёрда перакананымі, што і гэты другі бой эміграцыі таксама выйграюць.

## Сацыялістычнае разбазарваньне

Калі мы гутарылі з адным чалавекам, якому нядаўна ўдалося вырваца з Савецкага Саюзу, ён даслоўна сказаў нам: «Не-зладзеяў у Савецкім Саюзе няма». Пэўна-ж, слова «злодзей» у гэтым выпадку мае сваё асаблівае значэньне, і яно позбаўлена таго дрэннага, амаральнага адценьня, якое неадлучнае гэтаму слову, калі яно ўжываецца ў нармальных жыцьцёвых абставінах.

У Савецкім Саюзе ёсьць мноства слоў, нармальнае значэньне якіх зьнявечыла жарсткая рэчаіснасьць. Гэтак, прыкладам, ад вечнае нястачы прадуктаў першае патрэбы ды ад малавартасьці савецкага рубля, там замест «прадаюць», гаворыца «даюць». Так і зварот «разбазарваць сацыялістычную маемасьць» трэба разумець у сэнсе «бяруць сваё собскае». I людзі «бяруць» — не дзеля прыемнасьці ці дзеля спорту, а дзеля таго, што трэба і ў Савецкім Саюзе неяк жыць. Красамоўныя малюнкі ўсенароднага «разбазарваньня» дае нам сама савецкая прэса. Вось пара прыкладаў:

Калгасьнік сельскагаспадарчае арцелі «Гігант» Бабруйскага раёну, нейкі Каранькоў, пісаў ў «Зьвязьдзе» з 6 ліпеня сёлета:

«Пастанавіла ўправа калгасу пабудаваць цяпліцу. Завезьлі цэглу й некаторыя іншыя матар'ялы. Прайшло крыху часу, і старшыня перамяніў намер. «Будзем будаваць не цяпліцу, а сьвінарнік». А затым сьвінарнік перапляновалі на сіласную траншэю. А пакуль вялося гэтае «пераплянованьне», значная колькасьць цэглы зьнікла невядома куды». Чым нягісторыя зь няўмекам-кавалём, плугам ды «пшыкам», што ў яго нарэшце атрымаўся, якая вельмі ўдала характэрызуе савецкае плянавае «пшыканьне».

Але яшчэ лепшую даведку аб «усенароднасьці» савецкае маемасьці дае нам нейкі Сувораў зь Мірскога раёну ў «Зьвязьдзе» з 13 ліпеня сёлета пад заг. «Даражыць калгасным рублём!».

«Практыка паказвае, — піша Сувораў, — што ў тых калгасах, дзе няма строгага ўліку, прадукцыя разбазарваецца, нямінуча зьяўляюцца рвачы, аматары пажывіцца за чужы кошт. Якраз з такімі фактамі можна сустрэцца ў некаторых калгасах Мірскога раёну (чытай: па ўсёй бальшавіцкай імпэрыі — Р. Л.).

«З 1952 г. не праводзяцца дакумэнтальныя рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасьці ўправы сельскагаспадарчай арцелі ймя Дзімітрава. У ўліку пануюць хаос і неразьбярыха.

«Больш за гэта, у сельскагаспадарчай арцелі аказаліся неапрыходаванымі 47 цялят, больш за 50 ягнят і 3 сьвіньні.

«Нельга было-б знайсьці вінаватага, калі-б палавіна гэтай колькасьці жывёлы прапала. А такія факты ў калгасе ўжо былі. Зьнiклі, напрыклад, невядома куды 7 зялезных баронаў, трыер і шмат іншага інвэнтару. Вінаватыя не выяўлены.

«У некаторых выпадках кіраўнікі калгасу сьвядома йдуць на парушэньне статуту сельскагаспадарчае арцелі. У лютым калгас сьпісаў 2.435 літраў бэнзыну, як «непрадугледжаны перавыдатак».

«У бухгальтэрыі сельскагаспадарчае арцелі імя Кірава працуе пяць работнікаў. Акрамя таго, сямёх чалавек вядуць улік па брыгадах. Здаецца, ужо дзе-дзе, а тут не дадуць прапасьці ніводнай калгаснай капейцы. Атрымліваецца-ж наадварот. Ня гледзячы на вялікі апарат рахунковых работнікаў, улік заблытаны горш, чым у якім-небудзь іншым калгасе, дзе працуюць толькі 2-3 рахунководы. Працадні часам налічваюцца не паводля аб'ёму выкананай работы, а падзённа. Няма ўліку разьлікаў калгасу з арганізацыямі й прыватнымі асобамі. Таму немагчыма ўстанавіць, хто вінават сельгасарцелі і каму вінавата яна.

«Карыстаючыся бязьдзейнасьцяй рэвізійнае камісіі, старшыня ўправы тав. Максімовіч колькі разоў даваў калгасную аўтамашыну сваяком для перавозкі маемасьці із Стаўбцоўскага раёну. Накіравальныя-ж лісты афармляліся так, што нібыта машына вазіла цэмэнт і мінэральныя ўгнаеньні для сельгасарцелі.

«Вядома, што такі «прыклад» старшыні толькі заахвочвае рвачоў, людзей ня чыстых на руку...

«У штаце машынна-трактарных станцыяў ёсьць інструктары-бухгальтары, якія забавязаны-рэвізаваць фінансава-гаспадарчую дзейнасьць ўправаў, дапамагаць ім наладжваць улік. Забавязаны, аднак ня робяць гэтага...».

Р. Л.

## Дзіўная непаінфармаванасьць

У пачатку сёлетняга лета аўтар гэтых радкоў адведваў гістарычны замак караля Людвіка II «Нойшванштайн», паложаны ў маляўнічай альпэйскай мясцовасьці паўдзённай Баварыі. Калі я падыйшоў да кіёску з рознымі памяткавымі вырабамі, дык прадавец, пачуўшы ня чыстую нямецкую вымову маёй гутаркі, запытаўся, зь якога краю я паходжу. Я адказаў, што зь Беларусі. Нямецкі прадавец і ягоная жонка зьдзівіліся, што пра такі край яны першы раз чуюць, і выказалі думку, што, відаць, ён павінен знаходзіцца нейдзе вельмі далёка. Разгневаны за такі анальфабэтызм Немцаў у васнаўных пытаньнях геаграфіі, я, іранізуючы з такой ягонай непаінфармаванасьці, адказаў, што Беларусь знаходзіцца ў Аўстраліі. Немец і ягоная жонка сур'ёзна гэтаму паверылі і пачалі ківаць галовамі ад зьдзіўленьня, што гэтак здалёка я сюды прыехаў.

Аказваецца, аднак, што ня толькі дробныя прадаўцы баварскіх памятак зьяўляюцца поўнымі анальфабэтамі ў элемэнтарных пытаньнях геаграфіі. Такімі-ж самымі анальфабэтамі зьяўляюцца й передавыя нямецкія журналістыя й рэдакцыі пашыраных нямецкіх журналаў.

Перада мною шырока ведамы нямецкі ілюстраваны тыднёвік «Мюнхэнэр Ілюстрыртэ», нумар 38 за 17 верасьня 1955 г. У ім знаходзім рэпартаж зь нядаўнага падарожжа канцлера Адэнаўэра із штабам палітыкаў і журналістых у Маскву і фотоздымкі зь беларускіх гарадоў, перазь якія яны праяжджалі: Менск, Ворша, Смаленск. На адным з фотоздымкаў бачым два новыя вялікія жыльлёвыя дамы перад чыгуначнай станцыяй у Менску, а ўнізе подпіс: **«Сем гадзін пасьля ад'езду зь Берасьця Літоўскага, дзе ўрадавы цягнік быў перастаўлены на шырокія рэйкі, паяўляецца Менск, сталіца Украіны».**

Вось гэткая паінфармаванасьць выдатнага нямецкага журналістага, — бо езьдзіў з канцлерам аж у Маскву — і нямецкай рэдакцыі аб Беларусі і Ўкраіне. I гэта ня гледзячы на тое, што падчас апошняй вайны магчыма ён сам ці нехта з рэдакцыі быў у Менску або Кіяве. Дык што-ж тады гаварыць аб іншых народах Заходняе Эўропы?! Поўная непаінфармаванасьць, як вынік такой-жа поўнай ігнаранцыі да праблемаў падсавецкага Ўсходу, які зьяўляецца для Заходу сьмяротнай небясьпекай.

# Амэрыканская сельскагаспадарская дэлегацыя ў СССР

15 ліпеня сёлета прыбыла ў Маскву амэрыканская сельскагаспадарская дэлегацыя, у склад якой уваходзілі вучоныя, фэрмэры, камэрсанты і іншыя асобы, зьвязаныя зь сельскай гаспадаркай. Дэлегацыю ачольваў дзекан сельскагаспадарскага каледжу, дырэктар экспэрымэнтальнай станцыі ў штаце Нэбраска Уільям Ламбэрт. У склад дэлегацыі ўваходзіў ад'юнкт-прафэсар Чыкаскага ўнівэрсытэту Джонсон Дэпэйл, дзекан сельскагаспадарскага каледжу штату Паўночная Караліна — Уільям Рыд. У ліку дэлегатаў былі таксама амэрыканскія фэрмэры, беспасярэдна працуючыя на сваіх гаспадарках. Сярод іх быў выдатны хлапкавод з штату Арызона Джон Джэкабэ, фэрмэр Джуліюс Кляйнэр, собсьнік мясамалочнай фэрмы. Між іншым Кляйнэр — гэта стары эмігрант з Расеі. Сярод дэлегатаў быў і супрацоўнік газэты «Дэ-Мэйн Рэджыстэр» з штату Айова Лаўрэнь Сот. Гэтай газэце належыць ініцыятыва ў справе абмены сельскагаспадарскімі дэлегацыямі паміж ЗША і Савецкім Саюзом. Склад дэлегацыі быў падабраны так, каб яна мела магчымасьць на месцы ўсьведаміць сутнасьць савецкай сыстэмы сельскае гаспадаркі, а таксама практычна пазнаёміцца з паасобнымі галінамі вытворчасьці ў калгасах і саўгасах.

У міністэрстве сельскае гаспадаркі СССР быў складзены маршрут паездкі дэлегацыі з такім разьлікам, каб паказаць гэтак званыя перадавыя калгасы, саўгасы й МТС у найлепшых частках Савецкага Саюзу.

У Маскве дэлегацыя затрымалася тры дні. Сябры дэлегацыі пазнаёміліся з Масквою, наведалі сельскагаспадарскую выстаўку, агледзелі будынак маскоўскага ўнівэрсытэту. Дэлегацыя таксама наведала падмаскоўскі калгас «Луч» і саўгас «Горкі II». Далей, згодна маршруту, дэлегацыя выехала ў Харкаў. На працягу дзесяці дзён яна адведала шмат калгасаў, саўгасаў і навукова-дасьледавальных установаў у Харкаўскай, Днепрапятроўскай, Запарожскай і Адэскай вобласьцях.

З Адэсы дэлегацыя выехала на Кубань. Па дарозе ў Эўпаторыі дэлегацыя пераканалася, што, ня гледзячы на запэўненьні ў найлепшых пачуцьцях і прыязьні да амэрыканскага народу, сустрэчаў з хлебам і сольлю ды багатымі пачастункамі, антыамэрыканская прапаганда ў Савецкім Саюзе інтэнсыўна працягваецца. У парку культуры й адпачынку дэлегаты заўважылі аж пяць вялізарных размаляваных антыамэрыканскіх плякатаў. Калі сябры дэлегацыі зьвярнулі ўвагу на гэтую бульварную антыамэрыканскую прапаганду, савецкія афіцыйныя асобы, што былі пры дэлегацыі, адчувалі сябе вельмі няёмка.

У далейшым падарожжы на Кубані, у Сталінградзе, Куйбышаве, Ташкеньце, Алма-Аце дэлегацыя часта дзялілася на дзьве а то й тры групы, каб больш адведаць калгасаў, саўгасаў і дасьледавальных установаў сельскае гаспадаркі. Сябры дэлегацыі за ўвесь час зь вялікай зацікаўленасьцю ўнікалі ўва ўсе бакі працы тых аб'ектаў, якія ім удалося пабачыць. Амэрыканская грамадзкасьць зь нязвычайнай цікавасьцю чакала вывадаў беспасярэдняга дасьледаваньня сацыялістычнай сыстэмы сельскае гаспадаркі Савецкага Саюзу. Досыць сказаць, што кіраўнік дэлегацыі Уільям Ламбэрт яшчэ перад выездам у СССР атрымаў 200 запросінаў ад розных амэрыканскіх арганізацыяў расказаць, што дэлегаты пабачаць у савецкіх калгасах і саўгасах.

Затрымаемся на тых тэарэтычных разыходжаньнях, якія ўзьніклі паміж амэрынскімі й савецкімі вучонымі пры наведваньні дэлегацыяй савецкіх навукова-дасьледавальных установаў.

У Адэсе дэлегацыя адведала ўсесаюзны сэлекцыйна-гэнэтычны навукова-дасьледавальны інстытут імя Лысенкі. Як ведама, акадэмік Лысенка пры жыцьці Сталіна быў бясспрэчным аўтарытэтам у сельскай гаспадарцы. Ягоныя навуковыя вывады заўсёды былі недасканалымі, але найлепей адказвалі камуністычнаму сьветагляду.

Дальсьледавальны істытут у Адэсе ўкамплетаваны навуковымі супрацоўнікамі, у бальшыні прыхільнікамі і насьледавальнікамі Лысенкі. У інстытуце амэрыканскіх вучоных зацікавілі аснаўныя прынцыпы тэорыі стадыёвага разьвіцьця расьлінаў. Аднак акадэмік Даўгушын ня змог пераканаць Амэрыканцаў у навуковай вартасьці гэтай тэорыі. Пры сваей думцы асталіся Амэрыканцы і ў пытаньні гібрыдызацыі. Пасьля дыскусіі дырэктар экспэрымэнтальнай станцыі Уільям Ламбэрт сказаў: «Мы, відаць, ня зможам дайсьці да агульнага пункту гледжаньня ў пытаньні гэнэтыкі» («Сельское хозяйство» за 27. 7. 1955).

Ужо пасьля ад'езду дэлегацыі з СССР прафэсар Чыкаскага ўнівэрсытэту Джонсон у гутарцы з супрацоўнікам радыя зацеміў, што ў навукова-дасьледавальных установах СССР, дзе ёсьць моцныя ўплывы акадэміка Лысенкі, адчуваецца шарлатанства ў пытаньнях навуковай думкі.

Узьнікла дыскусія й пры наведаньні амэрыканскай дэлегацыяй кубанскай машынна-выпрабавальнай станцыі ў пытаньні культывацыі культураў, патрабуючых абворваньня. Як ведама, ад калгасаў і саўгасаў патрабуюць абвороваць бульбу, некаторую агародніну і асабліва кукурузу да 5—6 разоў. На думку Амэрыканцаў, культывацыя павінна праводзіцца ня больш двух разоў. Амэрыканскія вучоныя растлумачылі, што шматразовая культывацыя высушвае глебу, чым прыносіцца шкода расьлінам. Пустазельле на абворваных культурах у ЗША зьнішчаецца хімічнымі сяродкамі. «У вас, — зацемілі Амэрыканцы — трацяцца мільёны рублёў на непатрэбную працу дзеля шматразовай культывацыі».

Такія-ж самыя дыскусіі ўзьнікі ў саўгасах, асабліва на Кубані. Аднак згадзіцца з довадамі амэрыканскіх вучоных савецкія спэцыялістыя не адважыліся, бо ня мелі дырэктываў з Масквы. Дзекан сельскагаспадарскага каледжу Уільям Рыд паабяцаў навукова-дасьледавальнаму істытуту імя Лысенкі прыслаць усю літаратуру з ЗША па пытаньні культывацыі.

Два гады таму назад на верасьнёўскім пленуме ЦК КПСС Хрушчоў сказаў: «Сельская гаспадарка нашай краіны зьяўляецца самай мэханізаванай гаспадаркай у сьвеце... Савецкая дзяржава аснасьціла сельскую гаспадарку першакляснай індустрыяльнай тэхнікай МТС, што дазволіла разьвязаць праблемы мэханізацыі важнейшых сельскагаспадарскіх працаў».

Пры наведваньні амэрыканскай сельскагаспадарскай дэлэгацыяй калгасаў і саўгасаў савецкія кіраўнікі паказалі гаспадаркі ў найбольшай ступені забясьпечаныя найлепшымі машынамі. Аднак агляд сельскагаспадарскіх машынаў і ступень мэханізацыі працы ў калгасах і саўгасах паказаў значныя перавагі амэрыканскіх машынаў, а таксама й больш высокую мэханізацыю працы ў сельскай гаспадарцы Амэрыкі. Такім чынам фанабэрыстае цьверджаньне Хрушчова аб сусьветнай перавазе савецкай мэханізацыі сельскай гаспадаркі не адказвае запраўднасьці.

Каб зілюстраваць перавагу амэрыканскай мэханізацыі, варта прывесьці некалькі фактаў. Першы раз Амэрыканцы азнаёміліся з машына-трактарнай станцыяй у Харкаўскай вобласьці, а да гэтага яны наведалі калгас «Шлях Леніна». У выніку гэтых наведаньняў кіраўнік дэлегацыі Уільям Ламбэрт паведаміў карэспандэнта ТАСС, «што роўня мэханізацыі на амэрыканскіх фэрмах больш высокая. Напрыклад, на адну і тую-ж працу ў сельскай гаспадарцы траціцца ў Амэрыцы 25—30% менш людзкой працы, чымся ў Савецкім Саюзе.

**Заканчэньне на 7-ай бачыне**

**В. Б.**

# У паняволенай Беларусі

### НУМАР АДЗІН, А РАЗЬМЕРЫ ТУФЛЯЎ РОЗНЫЯ

**(Ліст у рэдакцыю «Зьвязды» з 13. 8. 55 г.)**

У пачатку ліпеня я купіла ў менскім унівэрмагу жаночыя туфлі вытворчасьці менскай абутковай хвабрыкі імя Кагановіча. Памерала, як заўсёды робяць, правы туфель. Абутак спадабаўся. Пры атрыманьні на кантролі зноў зьверыла нумар на падэшве. Усё было правільна — 35 разьмер.

Але, прыехаўшы дамоў, я выявіла, што левы туфель на цэнтымэтар даўжэйшы за правы. Мне параілі адправіць туфлі на хвабрыку. У пісьме на імя дырэкцыі прадпрыемства я прасіла абмяняць туфлі.

Мінуў тыдзень, другі, а з хвабрыкі — ніякага адказу. Пасьля напамінку па тэлефоне з аддзелу збыту мне паведамілі: «Пасылку атрымалі, квітанцыя ў нас на руках, а туфлі прышлем». На маё настойлівае запытаньне, калі-ж, нарэшце, я іх атрымаю, той-жа голас абыякава адказаў: «Хіба вы ў нас адна?»

Відаць, брак — нармальная зьява на хвабрыцы імя Кагановіча.

**І. Муская,**
бухгальтар смаргонскай раённай газэты «Перамога».

### П'ЯНСТВА З НУДЫ

Шмат якія маладыя работнікі Менскага аўтамабільнага заводу лічаць для сябе неабходным абавязкова напівацца ў суботу й нядзелю, адзначаць выпіўкай кажную зарплату.

...Летась быў створаны спэцыяльны штаб судзеяньня ахове грамадзкага парадку ў колькасьці 45 чалавек. Сябры штабу стала дзяжурылі ў ваддзеле міліцыі (!), на вуліцах, наладжвалі спэцыяльныя рэйды па трамваях і аўтабусах, наведвалі клюб, танцавальную пляцоўку.

Але вось ужо некалькі месяцаў, як і штаб і ініцыятыўныя групы спынілі сваю дзейнасьць... (Паводля «Чыр. Зьм.», 23. 8. 55).

### САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ТЭХНІКА

У канцы другое дэкады жніўня ў калгас імя Лысенкі, дзе трэба сабраць больш за 130 гэктараў лёну, была накіравана церабілка. Але ня ўсьпелі машыну адвезьці на некалькі кілямэтраў ад сялібы МТС, як яна рассыпалася на часткі.

— У калгасах Смаргонскага раёну дзесяткі церабілак прастойваюць, а на корані перасьпявае каля тысячы гэктараў лёну («Сов. Бел.», 2. 9. 55).

### У МОЗЫРЫ НЯМА КАНАЛІЗАЦЫ

Тут даўно ўжо насьпела пытаньне пабудовы каналізацыі. Урад БССР зацьвердзіў праект пабудовы ў Мозыры каналізацыйнае сыстэмы... Аднак за гэтую справу й дасюль не ўзяліся. («Сов. Бел.», 2. 9. 55).

### ЗМАРНАВАНЫЯ МІЛЬЁНЫ

На базах, складох, у магазынах і кіёсках нашай рэспублікі накапілася на дзесяткі мільёнаў рублёў нерэалізаванай (не распаўсюджанай згодна з плянам) літаратуры («Чырв. Зьм.», 3. 9. 55).

### САВЕЦКІЯ МАЙСТЭРНІ

У Ваўкавыску адкрылі радыямайстэрню й цэх хімічнага чышчэньня вопраткі. Аднак карыстацца іхнымі паслугамі нельга: у радыямайстэрні няма лямпаў для радыяапаратаў, адчуваецца нястача й іншых запасовых частак, а цэх хэмічнага чышчэньня доўгі час бывае на замку.

У кравецкіх майстэрнях месяцамі ня бывае гузікаў. У Ваўкавыску працуе каля 10 кравецкіх майстэрняў, аднак у ніводнай зь іх нельга пашыць мужчынскае сарочкі («Сов. Бел.», 2. 9. 55).

### ПРАГУЛЫ ЗВАЛЬНЕНЬНІ Й ТУРМА

У першым паўгодзьдзі сёлета на трактарным заводзе (у Менску), паводля вестак аддзелу кадраў, дапушчана **1.834** выпадкі прагулаў і 194 спазьненьня. За сыстэмачнае порушэньне працоўнае дысцыпліны за гэты пэрыяд зволынена з заводу 46 чалавек і за прагулы **86**.

... Фрэзэроўшчык дызэльнага цэху, Дашкевіч прагуляў у травені больш за **20** дзён. Прыгаворам суду ён быў пакараны пазбаўленьнем свабоды на 2 месяцы. («Сов. Бел.», 10.9.55)

### 600.000 ЭГЗ. БЕЛАРУСКІХ ТВОРАЎ ПАЎКРАІНСКУ

Ідучы насустрач усё ўзрастаючаму попыту чытачоў на ўкраінскія пераклады беларускіх твораў, выдавецтвы Ўкраіны толькі за адзін год выпусьцілі кніг беларускіх аўтараў агульным **тыражом у** шэсьцьсот тысяч эгзэмпляраў. («Полымя» №8, б. 126)

### ЧАГО ТОЛЬКІ ТАМ НЯМА!...

— У магазынах Драгічына (раённы цэнтар) **няма** летняга мужчынскага й дзіцячага забутку, няма мужчынскіх шкарпэтак, трыкатажных вырабаў.

— У гарадзкім пасёлку Кастрычніцкі, ня гледзячы на добры ўраджай гародніны, у магазынах няма ў продажы бульбы, капусты, цыбулі. У пасёлку **няма** ў продажы фруктовых водаў.

— У Менску ў магазынах **няма** цёплых рэчаў, валёнак, футравых рукавіц, душагрэек, мала зімовых шапак.

— У менскім магазыне «Аўтамабілі», цэнтральным унівэрмагу і іншых магазынах **няма** шмат якіх частак да матацыкляў. Такое-ж становішча і з запасовымі часткамі да самакатаў. (Паводля «Сов. Бел.», 8.9.55)

---

**Язэп Глыбачанін**

# Невядомая

**(Апавяданьне)**

Ніхто й да сяньня ня ведае навет ейнага імя...

У вадзін шэры, восеньскі дзень яна прыехала да нас. Уся шэрая. Шэры аднастрой Саюзу Моладзі, шэры наплечнік — ні то вайсковы, ні то турыстычны. Прыехала шэрай, запыленай вайсковай машынай, якія абслугоўвалі фронт. Відаць доўга ехала, бо была так запыленая, што навет твар выглядаў зусім шэрым. Да гэтага густыя вяснушкі прабіваліся праз пыл, і ўсю гэту шэрань рабілі яшчэ шарэйшай. Вось вам проста шэрая, звычайная дзяўчына. Адно вочы блішчэлі дзіўным вагнём. Яны цьвяроза, сувора глядзелі на сьвет, аднак зь іх таксама выглядалі праблескі адданасьці й самаахвярнасьці. Але каб гэта заўважыць, трэба было ўмець глядзець у дзявочыя вочы.

Наш зьвяз, хоць і быў пяхотным, усё-ж хлапцы ў ім лічылі сябе не абы-якімі кавалерамі — настолькі, што на такую шэрань не зьвярнулі вялікай увагі. Адно сёй-той кінуў, ня зусім зрэшты далікатную, заўвагу пад ейным адрасам. Яна-ж здавалася зусім не заўважваць гэтага.

Адшукаўшы зьвязовага, што якраз фліртаваў з гаспадыняй, у якой ён закватэраваўся, яна паказала яму свае дакуманты й накіраваньне. Той ня вельмі каб прыхільным позіркам глянуў на яе, пацерабіў нос і патыліцу, ды пачаў пераглядаць ейныя паперы. Пасьлей пачаў выпыт, больш сьцьвярджаючы факты, чымся пытаючы:

— Вам дваццаць тры гады.

— Так! — гучэў кароткі адказ. Дзіўна — яна магла выглядаць і на трыццаць тры.

— Вы закончылі санітарны курс і прысланы ў мой зьвяз як сястра.

— Але.

— На фронце яшчэ ня былі?

— Не, спадар зьвязовы.

— Слухайце, спадарынька! Варочайцеся як найхутчэй туды, адкуль прыехалі. Абыдземся неяк бяз вас. Усё гэта добра й прыгожа, але мой зьвяз ужо заўтра йдзе на перадавую.

— Дык я-ж і прыехала...

— Слухайце, спадарынька! Ці вы ўяўляеце, што гэта фронт? Дый што тут гаварыць — я загадваю вам вярнуцца й годзе!

— Выбачце, спадар зьвязовы, але ў гэтым выпадку я падначаленая ня вам, а тэй установе, якая мяне паслала. Таму да вас я зварочваюся не па загады, а па дапамогу, якую вы мусіце...

— Ніякае дапамогі я вам ня дам, — перарваў зьвязовы. — Якая ўстанова вас сюды прыслала, хай тая вам і дапамагае. Я загадваю вам вярнуцца — калі ня хочаце падпарадкавацца, дык я вамі больш сабе галавы заварочваць ня зьбіраюся.

Кароткі вайсковы салют — і яна выйшла, а зьвязовы далей фліртаваў з гаспадыняй.

* * *

Будучы заступнікам зьвязовага, я нярэдка мусіў выконваць ягоныя абавязкі — асабліва тады, калі зьвязовы — яго звалі Пятрок — быў заняты фліртам ці выпіўкай. Так сталася і гэтым разам. Толькі я абыйшоў хаты, дзе стаялі хлапцы, ды павызначаў вартавых на ноч, як, варочаючыся дадому, спаткаў яе. Яна нясла вядро з вадою, натужваючыся ад ягонага цяжару. Я моўчкі ўзяў вядро ад яе.

— Вось сюдою, — коратка сказала яна й пайшла наперад.

Мы прыйшлі ў парожную напоўразбураную хату. «Добрая нагода, падумаў я, і патаптаўшыся, паставіў вядро на зямлю ля стала. Адно толькі я выцягнуў руку, каб узяць ейную, як у маёй руцце няведама скуль зьявілася шчотка.

— Вось, калі ласка, шаруйце гэты стол, калі ня маеце іншае работы, — жартоўна-сувора прамовіла яна. — Трэба каб быў чысты, хачу разлажыцца з маймі мэдыкамэнтамі.

Хоцькі-няхоцькі, я ўзяўся за працу, тайком спадзяючыся, што можа ўдасца навязаць хоць гутарку. Але больш за «так» або «не» мне і не давялося пачуць. Зьнеахвочаны гэтым, я хутка пайшоў.

* * *

Шэрым золкам, назаўтрае наш зьвяз выйшаў у бой. Да нашага заданьня належала пераправіцца лодкамі праз раку, прайсьці якіясьці трыста мэтраў ды заняць лінію чыгункі, з вышыні насыпу якое можна было-б трымаць пад абстрэлам ворагавыя пазыцыі. Напачатку ўсё йшло спраўна. Мы бязь перашкодаў дабраліся да лодак і пачалі рассаджвацца. Было яшчэ прыцемна, і нам была загадана срогая цішыня. Таму я вельмі зьдзівіўся, калі непадалёку пачуў, хоць і прыцішаную, ды ўсё-ж галосную лаянку. Пра асобу, якая рабіла гэты вэрхал, ня было ніякага сумлеву: гэтак лаяцца сярод нас умеў толькі зьвязовы Пятрок.

Зацікаўлены, я выскачыў на бераг і падаўся ў той бок, адкуль даносіўся крык. У тым месцы некалькі лодак ужо адплыло ад берагу. Па беразе-ж, зь пенай на вуснах ад злосьці, размахваючы рукамі, сюды-туды бегаў зьвязовы Пятрок, ды ня гледзячы, што яшчэ нядаўна сам загадваў абсалютнае маўчаньне, крычаў ледзь не на ўвесь голас: «Вярнуцца! Неадкладна вярнуцца»!

Адна з лодак завярнулася ды павольна падплыла да берагу. Пятрок-жа люта накінуўся на адну постаць у лодцы, у якой я зь дзівам пазнаў яе — мэдычную сястру.

— Вы! Вы! Спадарынька! — ад злосьці Пятрок ня ведаў, што гаварыць. — Як вы асьмельваецеся дзейнічаць насупраць майму загаду! Тут я камандзер, і я адказваю за ўсё. Вам-жа я загадваў застацца там!

— Спадар зьвязовы, маё месца там, дзе могуць быць раненыя...

— Добра ведаю, дзе чыё месца! Вам-жа загадваю неадкладна пакінуць лодку! — Пры гэтых словах Пятрок амаль схапіў яе за каўнер, і ня зусім ветліва дапамог ёй выйсьці з лодкі, у якую зараз-жа ўсеўся сам.

Яна засталася на беразе. Я меў вялікую ахвоту падыйсьці да яе і неяк зьмякчыць перад ёй войстрыя Петраковы словы, сказаць нешта аб вайсковай дысцыпліне, але, сустрэўшы ейны позірк, я не адважыўся зрабіць гэтага і пайшоў да сваей лодкі.

Мы ня толькі ўдала пераправіліся праз раку, але зусім спакойна прайшлі больш за палавіну патрэбнага нам прастору, які быў густа зарослы кустамі. Аднак там нас спаткала неспадзеўка: праціўнік раптам пачаў вельмі гвалтоўна нас абстрэльваць, і то ня толькі сьпераду, але й збоку, чаго мы ніяк не чакалі. Густы агонь у момант зьнішчыў наш баявы ланцуг. У такіх абставінах, ня маючы магчымасьці акапацца, ня было сэнсу навет адстрэльвацца, і Пятрок загадаў адыходзіць назад. Ня ведама толькі, ці хто пачуў ягоную каманду. Кажны прабіраўся назад, як мог — нярэдка пераступаючы праз забітых ці раненых сяброў, каторых досьвіткам нельга было навет пазнаць. Вораг-жа ня спыняў перасьледу. Дабраўшыся да ракі, мы пабачылі, што далей і адступаць няма як, бо плыць праз ваду азначала напрашвацца пад валавяны дождж. На беразе завязаўся гарачы бой. Узрывы грнат, скарастрэлы аж заліваліся.

На шчасьце, на чыгунцы зьяўвіўся наш панцырны цягнік. Вораг адразу-ж кінуўся наўцёк. Хутка цішыня йзноў запанавала на ўсім адрэзку, і жаўнеры пачалі зыходзіцца ў групу. Не хапала шмат каго. Адсутнічаў і зьвязовы Пятрок.

Я зірнуў на свайго сябру Андрэя, што вылез адкульсьці, і мяне зьдзівіла фахова зробленая, сьвежая перавязка на ягонай руццэ.

— Як, лёгка? — пытаю.

— Лёгка.

— Ну, меў яшчэ шчасьце. А хто-ж гэта цябе так перавязаў?

— Як хто? Наша сястра.

— Яна тут?! Як-жа гэта?

— Ня ведаю, як яна сюды дасталася, але хіба тут, калі мне руку перавязала, — Андрэй навет на фроньце не пакідаў свайго філязафаваньня.

— Цікава, а дзе-ж Пятрок?

— Ня ведаю. Можа там... — ён паказаў на кусты.

Мы пайшлі на росшукі. Знаходзілі шмат каго. Учора яшчэ бадзёрых, вясёлых. Сваіх сябраў. Урэшцэ знайшлі й зьвязовага Пятра. Ягоная галава, разьбітая й акрываўленая, ляжала на руццэ ўчарашняй мэдыцынскай сястры, якая, пэўна, хацела зрабіць яму перавязку.

І яе, відаць, сьмерць схапіла зусім нечакана. Некалькі куляў з скарастрэлу ўрэзалася ў дзявочыя грудзі. Яна не пасьпела навет закрыць вачэй. І глядзелі гэтыя вочы, як-бы абвінавачваючы сьвет у зробленай ёй крыўдзе. Цяжка забыцца такі позірк. Хоць прайшло ўжо дзесяць гадоў ад таго часу — я нідзе на сьвеце ня сустрэў ні такога позірку, ні такіх вачэй.

* * *

Пахавалі ўсіх у супольнай магіле. Як братоў. І таго зь Беластоку, і таго з Смаленска. Без дамавінаў, простымі шынэлямі закрыўшы твары. А паміж імі і яе.

І ляжыць цяпер, не саромячыся, адна між хлапцоў, што загінулі ў вабароне Бацькаўшчыны.

А ніхто й да сяньня ня ведае навет ейнага імя...

## Рыгор Крушына

### ВЕРА Ў СЛОВА

Так, даўней па вёсках гора пекалі
І жылі на горкай лебядзе.
Ведзьмакамі сьвет муціўся некалі,
Іх клялі ў наклікаанай бядзе.

І падзіў, і ўрок, і сны трывожныя...
На жніве змагаліся з тым злом:
Абжыналі жыта прыдарожнае
Ды вязалі жычкаю залом.

Чараўнік імчаўся зданяй шпаркаю,
А за ім грымелі пяруны.
Ён насланьне гнаў над гаспадаркаю,
Падымаў нябожчыка з труны.

Расьсяваў наўкол насеньне кепскае,
Каб яно бур'янам парасло.
Каб стагнала цяжка глуш палеская,
Дзе стаіць самотнае сяло.

Зло ішло... Карова забадалася
І давала мала малака:
У бядзе ізноў бяда складалася
На таго старога ведзьмака.

Замаўлялі штосьці над карэньнямі,
І цадзілку мялі ў саганох,
Кіпяцілі зь зельлем белапеннаю,
Каб нячысьцік скурчыўся і ссох.

На яго ступалі зь песьнятворамі,
З конаўкай нашэптанай вады,
Уначы мярцьвілі загаворамі —
Ў сілу слова верылі дзяды.

1945 г.

### АДВЯЧОРКАМ

Захад мягне ў журавіне,
Хмары звоняць у званы.
Вечар сіні па даліне
Расьцілае туманы.

На аблоні вечар млявы
Лёг і слухае цішком,
Як гамоняць краскі-травы
З кучаравым хмызьняком.

Пахне ладанам ракіта...
І крычыць мая душа —
Дзесьці ў кляштары забытым
Незабытая імша.

Бомы льлюцца, будзяць далі.
Глуха стогне медзь званоў.
Бомы штосьці мне згадалі
І сагрэлі наквець сноў.

1928 г.

### ПАД СУЗОР'ЕМ СТРАЛЬЦА

Ляжыць Стральца сузор'е
На недасяжным шчасьці.
Хачу агню раскласьці
Ў халоднае надвор'е.

Няхай у паляваньні
Страла нясецца песьняй.
Штораз яна балесьней
Мяне нізае, раніць.

Я пад Стральцом ахвяра...
Таму і неспакойны
Іду, любоўю ўпойны,
І ў зорах — мая мара.

1924 г.

## Ул. Клішэвіч

### ЗАЧЫНІЎ ЗА САБОЮ

Зачыніў за сабою дзьверы
І нікога у сад ня пушчу,
Каб сваімі вачыма ня мерыў
Ні быльлё, ні паросты хвашчу.

І назначыў на дзьверцах знакам —
Захаваньне ўва ўсім пекнаты:
Уваход забаронен сабакам,
Ня пушчаюцца ў сад каты.

А гасьцей наплыло нямала,
Мой настрой то гарэў, то гас.
Багдановіч прыйшоў, Купала,
Прывітаўся Шаўчэнка Тарас.

Пакланіліся Байран і Шэлі,
А Кутул дык шагаў толькі сам,
Гётэ з Шылерам важна селі,
А за імі Амар Хайям.

Дантэ стаў із сваёй Бэатрычэ,
Паказаліся Пушкін і Блок.
Чую, хтосьць мяне раптам кліча:
Вунь Шэксьпір ужо топча здалёк.

Усхвалёваны шорах нейкі,
І уласным вачам недавер —
Гэта крочаць вялікія Грэкі:
Эўрыпід, і Сафокл, і Гамэр.

А мой сад у чароўным цьвеце,
Розных колераў кветкі ёсьць,
Ды Гамэравы вочы ня сьвецяць,
Каб пабачыць усю прыгажосьць.

Падрыхтована стол да абеду,
Беларускі абрус на стале.
— Ці я марыў, што ў госьці прыеду?..—
Так з прамовай Гамэр устае.

— Ці я марыў што ў гэтай краіне
Празь дзьве тысячы зь лішнім год
Маіх песьняў агонь не астыне
І што песьні сьпявацьме народ.

Толькі тут захаваліся песьні,
Толькі ў іх чую голас душы.
Сьвет астатні пасьпеў ужо сплесьніць
І паэзіі дух патушыць.

Дух узносіцца іскраў Божых,
Духам чыстым я сам жыву.
Край мой любы і край прыгожы,
Прад табою хілю галаву. —

Сеў Гамэр. Яго мудрыя словы
Узварушылі сэрцаў стук.
Знакам згоды сьхілілі галовы
Без плясканьня ў далоні рук.

А цяпер ён ішоў памалу
І паказваў рукою ўсім:
— Я цалую сягоньня Купалу,
Сябра мой Багдановіч Максім. —

17 ліпеня 1955 г., Каліфорнія

### БЕЛАЯ КВЕТКА

Белая кветка шыпшыны завяла.
Лісьцікі вецер растрос і раськідаў,
Адны зь іх павісьлі на голачках дзідаў,
Зваліліся іншыя на зямлю нямала.

Вецер і сонца над імі сваволіць,
Цёмная ноч закалдоўвае цішшу.
Кветкі галоўкамі больш не калышуць,
Ім не паднясца ўжо болей ніколі.

Чорны узор на ёй сьмерць малявала.
Можа спажытак галодных акрыдаў?
Лісьцікі вецер растрос і раськідаў,
Белая кветка шыпшыны завяла.

11 чэрвеня 1955 г., Каліфорнія

## Уладзімер Дудзіцкі

# Выбраныя вершы

(Працяг з 4-ай бачыны)

### НЕ ПАМГУ Я

Ні-то восень, ні-то вясна
усьміхаецца мне у вочы
хітравата...
Яна, яна,
і зямлю ўжо расьліны точаць.

Сырадоем —
валогай начы —
умываецца спуджаны ранак...
Кропляй першай расы лячыць
я прабую старыя раны...

Зіхаціць на далонях рук.
Углядаюся:
што за цуды?
Хіба праўда, што я пампу,
калі ўбачыў крупінку бруду?

Бяру іншую —
дзьве і тры...
І сінюткае шкло вадзіцы
дыямэнтам ужо гарыць, —
пэўна, сяньня ў ваччу двойцца?

У вадну я згартаю ўсе —
можа блага, а можа й добра...
Зноў праява:
ў жывой расе
пазнаецца злачынны вобраз...

Устрасаю далоні.
— Ты-ж
і самога сябе зьнявечыў...
І ня жоўты вядзьмярскі брыж
ружавее,
а зораў сьвечы...

Не пампу я!
А ты — гібей,
парахнёю
чарней ля плоту.
Наканоўвае шлях табе
балацянай іржою лотаць.

Мае-ж раны шчымяць...
Дарма, —
маю мудрыя ў хаце лекі.
Знаю, сорам зямлі трымаць
на грудзёх сваіх здань калекі.

І ня восень, аднак, —
вясна
усьміхаецца мне у вочы
хітравата...
Яна, яна...
І зямлю ўжо расьліны точаць.

Барысаў, 3. 4. 1943

### ХУТЧЭЙ, ХУТЧЭЙ

З-пад сьнегу першы 'шчэ храсток
пабачыў першы раз я ўчора.
хутчэй, хутчэй, о, хараство,
пратні кару дарогаў чорных!

Зірні ты: шэры красавік
ідзе, набракшы сокам глебы.
Навошта-ж мне душой крывіць? —
вясна, як хлеб, жывому трэба.

Таму й хвалюе так храсток,
з-пад сьнегу ўбачыў што я учора,
Хутчэй, хутчэй, о хараство,
пратні кару дарогаў чорных.

Плешчаніцы, 27. 4. 1943

### ЛЯ РОДНАЙ БАЦЬКАЎСКАЙ МЯЖЫ

Ля роднай бацькаўскай мяжы
мне доля жыць прыгаварыла;
надзейна там я палажыў
учора сноп сваіх зажынак...

Васковы стан перавязаў
удубальт моцным перавяслам.
З вачэй гарачая сьлеза
на сноп упала — не пагасла.

Сьцябло сатлее; будуць жыць
зярняты — золата крышталі;
ля роднай бацькаўскай мяжы
мяне калосьсем прывітаюць.

Бэрлін, 12. 9. 1944

### НЕ ЗРАКУСЯ

Хіба шмат такіх вось — нашых раніц
ёсьць дзе-небудзь у якой краіне?
І раса сьлязою ногі раніць,
і сады цьвітуць пад небам сінім.

У гаі альховым — каля млыну, —
улагодзіўшы ўчарашні клопат,
дзіўны россып песьняў салаўіных
абуджае соннае балота.

Прачынаюцца двары і хаты.
І ўжо дзесьці каля вёскі нейкай
хтосьці першы раз яшчэ пакратаў
струны постуховае жалейкі.

Ветрык спуджаны з кустоў вільготных
выбег, — лісьцем зашумеў нясьмела.
Бабы б'юць кужэльныя палотны
на мурожным беразе аселіц.

Не, ніколі ні ў вадной краіне
не знайсьці такіх дзівосных раніц.
Не зракуся іх і не пакіну,
хоць і сэрца моцна хто параніць.

Барысаў, 7. 5. 1943

(Заканчэньне ў наступным літарат. дадатку)

дзевяць нуль-нуль — я зайду: проста ўжо дзеля спартыўнай цікавасьці.

І я пайшоў.

Праўда, час быў назначаны ня вельмі зручны, — ноч я дзяжурыў у рэдакцыі і дарэчы было-б паспаць, але слова — словам.

Выйшаў я значна раней, каб зайсьці па дарозе ў цырульню.

Тут у нас адбылася трэцяя сустрэча, таксама як і першыя дзьве, нечаканая. Жэнька таксама зайшоў пагаліцца.

Убачыўшы яго, я ўспомніў словы гогалеўскага гараднічага: «Полно! я не памятозлобен», і ўсьміхнуўся падаўнейшаму, пасяброўску.

— Здароў, браток, — сказаў я, працягваючы руку.

Ды ён раней, чым працягнуць мне сваю руку, дакрануўся ёю да поля капялюша зусім па-трыбуннаму і салідна прагудзеў:

— Вітаю вас, вітаю...

У пачакальным пакоі нікога, апроч нас, ня было, аднак ён спытаўся, хто крайні, а я адказаў, што я. Тады я ўзяў із століка нумар газэты, па якім сяньня дзяжурыў, і палез у яго разварот, а Жэнька ўсё трубіў ды чмыхаў у хустачку, яшчэ не адыйшоўшыся ад вешалкі.

Ды вось зазьвінеў званок.

Урачыста, як пераможца зь лягеру дэмакратыі, я прайшоў да крэсла і сеў — першы. Жэнька ўвайшоў хвілін празь некалькі, калі я ўжо сядзеў намылены. Яго намылілі таксама.. Абодва мы адчувалі палёгку і ўдзячнасьць да слаўнай і несьмяротнай прафэсіі цырульнікаў, — цяпер ужо зусім натуральна мы можам з Жэнькам маўчаць і не глядзець адзін аднаму ў вочы.

Мяне падмаладзілі першага. Я апрануўся і ў нерашучасьці — што рабіць? — закурыў. Ды вось выйшаў і ён. У гэты час насьценны гадзіньнік захроп і паволі, пакуль Жэнька апранаўся, прабіў дзевяць разоў.

— Спазьняешся, — сказаў я, а ў думках — ужо ня могучы так недарэчна жартаваць уголас — дадаў: — Ці лепш — затрымліваешся.

— Ну, што-ж, хадзем, — сказаў ён замест адказу, і мы пайшлі.

Хады было на пяць хвілін, а тэм для гутаркі — яшчэ менш, — надвор'е, якое мы абодва бачылі, навіны, якія мы абодва чулі... Ды вось і пад'езд яго ўстановы, вось і чацьвёрты паверх, і прыёмная.

— Прашу распранацца, — сказаў ён, а сам у паліто і ў капялюшы прайшоў у свой кабінэт.

Я распрануўся, яшчэ ўсё спакойна цягнучы гаркаваты напітак зь келіха скромнасьці, і разгублена палез у кішэню па хустачку. Тут мяне яшчэ раз выратаваў званок. Сакратарка прайшла за дзьверы, забраніраваныя дэрманцінам, выйшла адтуль і сказала:

— Калі ласка! Яўгені Міхайлавіч просіць.

І тут ён — у мінулым Жэнька Лопух, партызан аднаго зы мною атраду, пасьля работнік адной зы мною абласной газэты, — цяпер паўстаў перада мною ўва ўсёй сваёй велічы.

Тоўсты і вялы з раптоўнага перакорму, да сьмеху важна надзьмуты, ён сядзеў за пісьмовым сталом і ўжо трымаў над папераў тоўсты чырвоны аловак. Для паўнаты ўзьдзеяньня — устаў і паволі, шырокім крокам выйшаў з-за стала.

— Прашу, — паказаў мне на абабітае скурай крэсла і, як здалося, ледзь не дадаў: «Вітаю вас. Слухаю».

Мы селі.

— Ну, вось... Здаецца, Алег Пятровіч?

Ён усміхнуўся, задаволены тым, што памятае імя ня толькі маё, але й майго бацькі, калісьці радавога партызана, а цяпер радавога калгасьніка.

— Я вас, Алег Пятровіч, запрасіў на наступнай справе.

Ён памаўчаў.

— Быў у мяне нядаўна Уладзімер Канстанцінавіч Дарожка. Памятаеце: Валодзька, яшчэ з партызанскай газэты? Цяпер ужо даволі салідны таварыш, і на даволі адказнай працы. І — як ні дзіўна — піша таксама. Вы ўсё больш, як я чуў, у сэньсе фэльетонаў... Вельмі правільна, зрэшты, — крытыка зьнізу ў сучасны пэрыяд нам з вамі вельмі патрэбна. А таварыш Дарожка напісаў гісторыю нашай партызанскай брыгады. Уся, так сказаць, эпапэя. Я пакуль што ня меў магчымасьці грунтоўна пазнаёміцца зь яго работай, але, наколькі мяркую зь яго расказаў, нашы з вамі імёны таксама займаюць там адпаведнае месца.

Ён усьміхнуўся, катаючы тоўсты чырвоны аловак у пальцах абедзьвюх рук.

— Ну, дык і што? — спытаўся я.

— Справа ў тым, што мы з вамі павінны таварышу Дарожку дапамагчы. Гісторыя ёсьць гісторыя, і ніхто ня мае права ўтойваць яе ад пакаленьняў. Тым больш, у сучасны пэрыяд.

— Ну, а пры чым тут я?

— Непасрэднага дачыненьня ў нас з вамі, вядома, няма. Аднак ёсьць думка, што іменна нам з вамі неабходна дапамагчы таварышу Дарожку давесьці сваю працу да шырокага савецкага чытача. Я па сваёй лініі, параіўшыся ў вадпаведных інстанцыях, зраблю, што палічу магчымым і неабходным, а вас, як чалавека, які валодае пяром, і наогул, паколькі вы цяпер у сталіцы, прашу дапамагчы гэтай справе па сваёй, так сказаць, лініі. Падшліфаваць там, скажам, літаратурны стыль, паглядзець наконт сюжэту і паасобных эпізодаў, ну, і закінуць слова ў рэдакцыі. Вам гэта, я сказаў-бы, зручней.

Тут я ўстаў. Келіх скромнасьці быў дапіты і я шпурнуў яго на паркет.

— Добра, — сказаў я. — Мы таксама зробім із свайго боку, што палічым магчымым і неабходным для нас у сучасны пэрыяд. Мы павінны толькі, паважаны таварыш Лопух, параіцца ў вадпаведных інстанцыях, прадумаць пытаньне, а тады... Зрэшты, — прашу прабачэньня!

Я павярнуўся, дайшоў да дзьвярэй, цьвёрда зачыніў іх за сабою, нэрвова хутка накінуў на плечы свой карэспандэнцкі дажджавік і выйшаў.

Што ён рабіў — ішоў за мною, хоць да дзьвярэй ці застаўся на месцы — ня ведаю. Ды і ня важна. Жэнька Лопух стаіць у вачох маіх і цяпер... ці, лепш сказаць, сядзіць перада мной за сталом, з тоўстым тварам і тоўстым алоўкам, зь мінай вяршыцеля лёсу, з сытай усмешкай тупіцы, якому не хапае толькі ўсесаюзнай вядомасьці...

«Полно! Я не памятозлобен».

А толькі хацелася-б вельмі, — і я думаў аб гэтым, ідучы цераз парк дахаты, — хацелася-б вынайсьці такі спосаб прымушаць перажыты час адкручвацца назад, як гэта можна рабіць зь кіностужкай. Мне шмат ня трэба, — адкруціць-бы толькі назад на тры дні, лічачы з таго моманту, калі я сеў перад Лопухам у мяккае скураное крэсла.

Тое, што ён гаварыў, а я цярпліва слухаў, — пра бяздарны і так даўно ўжо вядомы мне рукапіс Дарожкі, пра нашы з Лопухам прозьвішчы, якія павінны натхняць пакаленьні, — усё гэта я адрэзаў-бы і, як засьвечаны брак, выкінуў-бы ў кошык. А тады закруціў-бы кіноплёнку нашых трох дзён наступным чынам.

Вось мы ўсталі зь ім ад стала ў кабінэце і пайшлі назад у цырульню, увачавідкі абрастаючы... Не, пайшлі-б мы паголеныя, расплаціліся-б у касе, селі-б у крэслы, майстры напудрылі-б нас, асьвяжылі-б, тады пагалілі-б, тады мы ўсталі-б з крэслаў аброслыя, а тады... Цяжка, чорт вазьмі, думаць ззаду наперад!

Ды і ня трэба! Мне проста вярнуць-бы той вечар нашай сустрэчы ў тэатры, каб іменна там усё пачалося круціцца нармальна, каб мы абодва ўсьцешыліся гэтай сустрэчы, пагаварылі, як таварышы... Каб не прапала тое — дружба наша! — што не павінна прападаць, як не павінна зарастаць тваньню чыстае возера... Ну, ці іншае там адпаведнае параўнаньне. Мне знайсьці-б толькі той пракляты момант у жыцьці чалавека, калі ён пачынае рабіцца сьвіньнёй, — каб налажыць на яго, на той зародак хамства, абмежавальнік, а потым, калі спатрэбіцца, дык ужыць і глыбінны ліфт...

Ды гэта мне, відаць, ня ўдасца...

Застаецца адно — напішу я пра Лопуха фэльетон.

Янка Брыль

**Кнігапіс**

# Кніга аб беларускім тэатры й драме

**„THE BYELORUSSIAN THEATER AND D RAMA" by Vladimir Seduro. Research Program on the USSR. New York, 1955, pages 22+517**

Кніга Ул. Сядуры «Беларускі тэатр і драма», якая выйшла сёлета ў свет у ангельскай мове ў выданьні амэрыканскае «Дасьледніцкае праграмы СССР» — першая салідная праца, прысьвечаная гэтаму пытаньню.

Гісторыю тэатру нельга адарваць ад гісторыі народу: інтэнсыўнасьць разьвіцьця тэатральнага мастацтва цесна павязана з пульсам грамадзкага жыцьця, і зьмест гэтага мастацтва, як чульлівы барамэтар, паказвае грамадзка-палітычнае «надвор'е». Залатая эпоха Пэрыклеса ў клясычнай Грэцыі дала непараўнальны тэатр элінаў, рэзанансу якога не змаглі прыглушыць тысячагодзьдзі; цёмная эпоха сярэднявечча парадзіла своеасаблівыя тэатральныя жанры; цудоўныя майстры драматургіі ўпрыгожылі эпоху Рэнэсансу; Француская Рэвалюцыя выклікала да жыцьця новы тэатральны зьмест, — імкненьні кажнае гістарычнае эпохі й мэнтальнасьць кажнага народу знайшлі свой адбітак у тэатральнай эстэтыцы, далі ёй своеасаблівую непаўторнасьць, склалі асобны тэатральны стыль. Таму й гісторыя тэатру прываблівала дасьледнікаў культуры, і гэтаму пытаньню прысьвечаныя шматлікія й глыбокія зьместам працы.

Гісторыя беларускага тэатру, як самастойная дысцыпліна, доўгі час не знаходзіла адпаведнага дасьледніка. Некаторыя дадзеныя зь гісторыі тэатральнага мінулага ў Беларусі можна знайсьці ў працах зь гісторыі расейскага й польскага тэатраў. Аднак першы, хто зацікавіўся гэтым пытаньнем, як самостойнаю галінаю, быў наш выдатны драматург Францішак Аляхновіч, які ў 1924 г. выдаў у Вільні кнігу «Беларускі тэатр». Кніга гэтая зьмяшчае характарыстыку беларускага тэатру дасавецкага пэрыяду і ахоплівае, гэткім чынам, толькі пэрыяд тэатральных пачынаньняў. Спробы іншых тэатраведаў пашырыць і прадоўжыць працу над дасьледваньнем далейшага разьвіцьця беларускага тэатру не далі канкрэтных вынікаў, бо матар'ялы гэтых дасьледваньняў загінулі ў часе разгрому беларускіх культурных сілаў у падсавецкай Беларусі ў 30-х гадох. Асобныя артыкулы аб праблемах тэатральнае культуры БССР і рэцэнзіі на спэктаклі беларускіх тэатраў, раськіданыя па бачынах савецкае пэрыядычнае прэсы, у бальшыні выпадкаў недаступныя чытачу. Апрача таго, дзеля свае тэндэнцыйнасьці яны ня могуць даць запраўднага вобразу тэатральнага жыцьця ў савецкай Беларусі.

* * *

Праца Ул. Сядуры — гэта першая спроба даць вольную ад тэндэнцыйнасьці, сынтэтычную гісторыю беларускага тэатру — ад ягоных крыніц аж да нашых дзён. Кніга складаецца з чатырох частак: **перадсавецкі пэрыяд** (крыніцы беларускага тэатру, тэатральныя пачынаньні ў XIX ст., нашаніўская пара), гісторыя разьвіцьця Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру — БДТ I, гісторыя разьвіцьця Другога Беларускага Дзяржаўнага Тэатру — БДТ 2 (які пасьля Другое Сусьветнае Вайны атрымаў назоў тэатру імя Якуба Коласа) і гісторыя вандроўнага тэатру Уладыслава Галубка. Гэтакім чынам, праца Ул. Сядуры ахоплівае ўсе найважнейшыя этапы й разьдзелы беларускага тэатральнага жыцьця. Багатая фактычным матар'ялам, кніга праводзіць чытача праз эпоху станаўленьня беларускага тэатру; праз кароткі пэрыяд «рэнэсансу» беларускай тэатральнай культуры ў 20—28 г. г., калі таталітарны рэжым яшчэ ня так моцна, як пазьней, скоўваў разьвіцьцё творчае думкі; праз багаты жахлівымі падзеямі наступны пэрыяд, калі тэатр стаўся толькі прыладай для мастацкага ажыцьцяўленьня палітыкі партыі. Перад чытачом паўстае галярэя вобразаў выдатных прадстаўнікоў нашай тэатральнай культуры — драматургаў, рэжысэраў і актораў, якія ў вабставінах сталай небясьпекі перасьледваньняў за ўсялякія «ўклоны», тварылі малады беларускі тэатр. Аўтар кнігі знаёміць чытача із стылявымі асаблівасьцямі гэтага тэатру, разгортваючы перад ім, на падставе гістарычных дадзеных і арыгінальных дакумэнтаў, складаны вобраз стылявых мэтамарфозаў, што паўставалі ў выніку зьменаў фарватэру партыйнага карабля ды ў выніку змаганьня між прадстаўнікамі розных плыняў тэатральнае эстэтыкі.

Шматлікія фатаздымкі, прыкладзеныя у канцы кнігі, частка зь якіх ужо даўно сталася архіўным забыткам, прадстаўляюць выдатных тэатральных дзеячоў і паасобныя сцэны тэатральных пастановак.

У багатую бібліяграфічную частку ўваходзяць сьпісак беларускіх драматургічных твораў, літаратура да гісторыі беларускага тэатру й пералік паасобных артыкулаў аб беларускім тэатральным жыцьці ў пэрыядычным друку.

Канчаецца кніга пэрсанальным і прадметным індэксамі.

* * *

Праца, якую ўклаў аўтар у сваю кнігу — бясспрэчна, вялізарная. Адсутнасьць дадзеных зь гісторыі беларускага тэатру выклікала неабходнасьць крапатлівага зьбіраньня матар'ялу, у бальшыні выпадкаў пераасэнсоўваньня яго з адпаведнымі вывадамі, і, пасьля гэтага, сынтэзу яго — абагульненьне паасобных дэталяў, фактаў і зьявішчаў у адзінае цэлае. Усе гэтыя этапы аўтар праводзіць добрасумленна й дасканала. Але на гэтым навуковы досьлед не канчаецца. Як вынік усяго працэсу дасьледніцкае працы, звычайна паўстае нейкая рэзультатыўная раўнадзеючая, як эквівалент дзейнасьці розных паводля характару, накіраванасьці й інтэнсыўнасьці сілаў. Гэтая раўнадзеючая ў пляне досьледу гісторыі беларускага тэатру мусіла-б паказаць, ці далі ўсе паасобныя шматлікія інгрэдыенты гэтага зьявішча нешта новае, непаўторнае, ці засталося тое самае, што ўжо калісь было, і нічога новага сабой не ўяўляе. Трэба адказаць на пытаньне, ці творчая практыка выдатных майстроў нашага тэатральнага мастацтва — драматургаў, рэжысэраў і актораў — ня гледзячы на розьніцу іхнае творчае індывідуальнасьці і на вымушаную неабходнасьць тварыць у вабставінах таталітарнага рэжыму, ці дае гэтая творчая практыка гаварыць, што, як вынік складанага спляценьня палітычных і эстэтычных фактараў паўстала нешта новае, што характэрызуе сабой беларускі нацыянальны стыль у тэатральным мастацтве. Нам здаецца, што яснага адказу на гэтае кардынальнае пытаньне аўтар не дае, і ў чытача міжвольна ствараецца ўражаньне аб пэўнай эклектычнасьці беларускага тэатральнага мастацтва, якое склалася на базе выкарыстоўваньня творчага дазнаньня расейскага і эўрапэйскага тэатраў (як пачынае аўтар характэрыстыку стылю БДТ I, бач. 68), або зьявілася толькі паўторам мастацкае практыкі «Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага Тэатру», «МХАТ», (як можна сьцьвердзіць зь ліста рэжысэра БДТ 2 С. Хачатурава, у якім ён называе гэты тэатр «плоць ад плоці й кроў ад крыві МХАТ'у», бач. 264).

Нельга гаварыць, што аўтар зусім не кранае паняцьця нацыянальнага беларускага стылю пры аглядзе творчае практыкі вядучых тэатраў Беларусі, але ён ужывае гэтае паняцьце хутчэй як дадатковае да прымату й прыёрытэту МХАТ-аўскай школы ў мастацтве гэтых тэатраў. У распрацоўваньні гэтага пытаньня хацелася-б бачыць менш цытаваных выказваньняў іншых, небеларускіх аўтарытэтаў, але больш самастойных аўтарскіх вывадаў, як вынік усебаковага апанаваньня фактычнага матар'ялу й глыбокага мэтадалягічнага аналізу творчае дзейнасьці паасобных стваральнікаў беларускага тэатру.

Гэтым фактычным матар'ялам, як ужо адцемлена, кніга вельмі багатая. Бязумоўна, якасьць гэтая — рэч толькі пазытыўная, але часам празьмерная дэталізацыя залішне абцяжвае дасьледваньне і не дапамагае ягонай лёгіцы. Мы ня думаем, прыкладам, што камусь будзе цікава ведаць, што кампазытар Куліковіч у сваёй маладосьці часта наведваў тэатр міньятураў у Санкт-Пэтэрбурзе, і мы сумляваемся, што якраз гэтая акалічнасьць бадай праз палову стагодзьдзя адбілася на стылі й рэпэртуары кіраванай ім канцэртна-эстраднай групы «Жыве Беларусь!» (бач. 179). Побач з падобнай празьмернай дэталізацыяй часам забываюцца аўтарам больш патрэбныя рэчы. Ён спамінае, прыкладам, нейкага камуністага Козакова, загадчыка мантавальнай часткі БДТ I (ён навет і ў пэрсанальны індэкс трапіў, але ўжо як актор!), але зусім не спамінае прозьвішча жанчыны-рэжысэра Гаянэ Тушмалавай, якая шмат чаго зрабіла ў пэрыяд працы тэатру пад нямецкай акупацыяй. Не пададзеныя таксама прозьвішчы кампазытараў, якія працавалі над музычным афармленьнем рэпэртуару БДТ I, хоць аб пазытыўных якасьцях гэтае музыкі аўтар гаворыць (б. 75). Ня зусім прадуманай здаецца нам фармулёўка аўтара аб тым, што музыка да тэатральных п'есаў, паступова «выдзяляючыся» з гэтых п'есаў, ператварылася ў опэрныя спэктаклі (б. 76).

Некаторыя ацэны акторскага майстэрства зьяўляюцца недагаворанымі. Аўтар, прыкладам, піша, што часта вядучым акторам БДТ I даводзілася спалучаць у сваёй творчай практыцы розныя, а часам і супрацьлежныя, акторскія амплюа — ролі псыхалягічныя й рэалістычныя (актору Ўладамірскаму), і што актор заўсёды ўдала выходзіў з усіх цяжкасьцяў (б. 78). Цяжка пагадзіцца з падобным «унівэрсалізмам» выдатнага актора. У ягоным творстве заўсёды ёсьць галоўнае й другараднае, і націск трэба ставіць якраз на галоўнае, бо гэтае галоўнае й ёсьць ключ для разуменьня творчае індывідуальнасьці й творчага дыяпазону актора. Аднак усе гэтыя й падобныя ім недахопы зусім зразумелыя ў гэтак шырака й глыбака задуманай працы.

Салідны досьлед Ул. Сядуры, які абыймае 517 бачынак тэксту, бясспрэчна, прынясе сур'ёзную дапамогу ўсім, хто цікавіцца гісторыяй культуры беларускага народу ды паслужыць абшырнай крыніцай ведаў для чытача й навукоўца-чужынца, а гэтым і кладзе пачатак запраўды навуковаму распрацоўваньню пытаньняў зь гісторыі беларускага тэатру.

**Алесь Карповіч**

# Вогнішча

**(З успамінаў)**

Пагасілі вогнішча. Сьціхла каля яго песьня. Суцемкі...

Здаецца, так нядаўна палымнела зыркае сьвятло, ды раптам — пагасілі агонь. Адно толькі тлее прысак на шэрым попеле. Лёгкі подзьмух ветру нясе водгук апошняе песьні і ўскрослыя іскры. Лятуць зьнічкі і ўспыхваюць успаміны. Нырца ў глыбінь мінулага, у вір трыццацёхгодзьдзя. I — паўстае дарагі абраз: Менск, валізка з кнігамі, собская маладосьць. У сьветлай памяці белы будынак зь вялікай шыльдай: «Беларускі Дзяржаўны Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага».

Іскра ўспамінаў успыхвае, разгараецца. Тэхнікум... Гэта запраўды жывое вогнішча беларускае культуры, нацыянальных ідэяў і думак. Ці мала ў сьценах тэхнікуму ўзгадавалася маладых шчырых патрыётаў, будучых змагароў за незалежную вольную Беларусь. Ці мала! Адтуль выйшлі ў жыцьцё ня толькі настаўнікі пэдагогі, але й грамадзкія культурныя дзеячы: і пісьменьнікі, і акторы, і сьпевакі, а найбольш — паэты. Тэхнікумаўцы не без гонару жартавалі: «Разьвяліся ў нас песьняры, як на балоце камары». Запраўды, на кажным курсе выяўляліся паэты. Іхныя імёны ўжо тады былі ведамы ў Беларусі: Александровіч, Якімовіч, Трус, Зіна Бандарына, Натальля Вішнеўская, Глебка, Лужанін, Дарожны, Казлоўскі. I далей — з году ў год — прыходзілі яшчэ новыя: Каліноўскі, Макароў, Шушкевіч, Ліхадзееўскі, Астрэйка.

Тэхнікум часта наладжваў літаратурныя вечары. Паэзія была гаспадыняй — багатай і шчодрай. Яе любілі і студэнты, і пэдагогі. Заўсёды заля была поўная ані ўбіцца. Гучнымі воплескамі сустракалі паэтаў. Асабліва любілі слухаць лірыку, бо ў ёй беларуская душа сьпявала. I песьня тая хвалюючая надоўга заставалася ў памяці. Мо таму міжволі й прыгадваецца Менскі Пэдтэхнікум.

Першае, што мы заўважым, калі ўвойдзем у белы будынак: у канцы калідору на сьцяне вісіць вялікая дошка. Гэта насьценная газэта. У ёй малюнкі, карыкатуры, гумарэскі, зацемкі й вершы. Усё аформлена ярка-страката, квяціста ды зь беларускім арнамэнтам. Адно бегла акінуць вокам газэту і адразу нам зразумела: сыны Беларусі, шчырыя й адданыя, вучацца тут у клясах ці, як тады называлі, — у габінэтах, што разьмяшчаліся абапал калідору. У тыя гады практыкаваўся быў у навучаньні Дальтон-плян, камплексна-лябараторны мэтад. Кажны выкладчык меў свой габінэт, і ў гэтых габінэтах кажны курс паводля раскладу заняткаў займаў адпаведныя гадзіны.

Званок на перапынак, і студэнты перайходзяць у іншыя габінэты. На калідоры шпацыруюць, гутараць, сьмяюцца. Вунь стаіць стары вартаўнік дзядзька Лабанок. Каля яго заўсёды гурт хлапцоў. Студэнты любяць слухаць ягоныя палескія казкі, і ён ахвотна баіць ім пра даўнае, старое. Сыпле жарты й прыказкі ды дабрадушна ўсьміхаецца.

Вось прайшоў настаўнік-аграном, дзядок Барташэвіч. Каржысты й таўсты, у юхтовых вялічэзных ботах, у грубой сялянскай сьвітцы, ён памалу йдзе, кажнаму сустрэчнаму працягвае руку й кажа: «Добры дзень, дзеткі-» У клясе студэнты з шумам абступаюць яго. Бяскрыўдны й добры, гэты сівенькі «дзядуля», як яго найчасьцей звалі, ня цікавіўся палітыкай. Ён любіў моладзь і на лекцыях адно казаў: «Дзеткі, вучэцеся. Беларусы ня гультаі. А вы — Беларусы і павінны добра вучыцца». Гэтак проста, бясьхітрасна казаў ён. I хіба толькі за гэтыя словы агентамі ГПУ ён быў пазьней арыштаваны, і бясьсьледна згінуў, як і настаўнікі Тэхнікуму Кругалевіч, Язэп Лёсік, Пяткевіч, драматург Грамыка, Адам Міцкевіч, праф. Пятуховіч, кампазытар Тэраўскі і музыкавед Дрэйзін. Аб іх, дарагіх і незабыўных, засталася сьветлая памяць. Прыгадва-

**(Працяг на 7-ай бачыне)**

**К. Юхневіч**

# Цярпеньне

## I

Ішоў дождж, восеньскі, зацяжны, з глухім журным шумам. I ў ягоным габінэце, пасьля атрымання тэлеграмы, таксама, бы дажджавы спад, доўга шуршэлі ўсялякія паперы. Навет сваіх найбліжэйшых сакратароў ён ня пушчаў да сябе. Разглядаючы й перачытваючы паперы, ён часта мыліўся, запісваў, перачырkваў, што напісаў раней, і рэзьліва чхаў ад папяровага пылу. Ды ўсё-ткі ён ня шмат страціў часу на шуканьне паміж сотняў усялякіх лістоў і карткаў чагосьці значнага.

З жыхароў павету мала хто ведаў яго, нярослага й ня штодня апранутага ў уніформу. Але ён ведаў блізу ўсіх, хаця ніколі ня сустракаўся з кажным, выпадкова падарожнюючы, ці звычайна прахаджаючыся па местачковых ходзішчах сярод тых, што барзьдзілі з працы, або сярод тых, што завёўшы лішні грош — выпіўшы, шчызьнелі радасьцяй жыцьця.

Здаралася, што ён ня меў даволі працы, тады ўсялякія паперы перапістоўваліся ім спакваля зь цярплівай цікавасьцяй і разважаньнем над тым, што там было данесена й зацемлена аб кімсьці. Ён уяўляў свайго будучага знаёмага гэтак, як мы любім усьведамляць і апавядаць пра прыродную зьяву, або пра далёкія краі з райскімі мясьцінамі, з астыглымі ўзмахамі горных вяршалінаў, з разгоністымі прасьцягамі сенажацяў, па якіх ад самае вясны да маразяных дзён восені сьцелюцца серабрыста-зялёныя хвалі асакі й чаротаў. Зіхрыліся яму й маленькія постаці, дзеці таго будучага знаёмства: іхная кволасьць, іхнае маленскае ўражаньне ад неспадзеўнага растаньня з бацькам, жывым і сумным, пакуль адыходзіў ад іх.

Лісткі й карткі былі палінаваныя, занумараваныя й дбайліва складзеныя. На іх былі толькі адно пакіненыя — напісаныя чорным алавіком літары, зь якіх і словы і думкі гусьціліся. Яны нараджалі парываньні злоснай творчасьці панаваньня над іншымі. Там розум-досьвед жыцьцёвых эпохаў, а гэтым самым забясьпечаньня свайго бытаваньня на зямлі векавіста — не цярпеў іншых жыцьцёвых апрычонасьцяў.

Яго, драбнявага ды нярослага, а ён сваіх памачнікоў, змушалі шмат працаваць. Ад чаго яны ўсе да «знаёмых» рабіліся больш няшчырымі, без пахіну людзкой сымпатыі, навет слухаючы пра дробязі і наіўнасьці ў жыцьці.

А першай гадзіне апоўначы ён затэлефанаваў да старшыні павету й сакратара райкомпартыі, ён сказаў ім, быццам настаўнік дзецям:

— Раніцой чакайце мяне, можа на восьмую, можа на дзявятую...

Далей ён не заставаўся ў габінэце. Шофэр завёз яго да гасподы. За кароткія часіны язды ад месца працы ён навет заснуў у аўтамашыне — быў напэўна стомлены.

Назаўтрае на знадворку пасьля дажджу вахчыла. Змрочныя ахапкі хмараў, нізкія над зямлёй і неразьвеяныя, гарэзіліся пасыпацца ўзноў кроплямі дажджу. Ён ледзь не спазьніўся на прызначанае спатканьне.

— Не засьпі, — сказала яму жонка будзячы. — Сьнеданьне гатова.

— Але, я зараз, — адказаў ён, бы апрыкла, бы адно штосьці трэ сказаць.

— Як спаў? — спыталася жонка.

— Нядрэнна. Не займай — часу няма, — усё-ткі адказаў ён. — «А вось сялянку тую ашчасьліўлю». Ён пачынае думаць. Цяперака ня вельмі ахвотна гутарыць з жонкай, мог-бы тады цьвяліцца ад гэтага. Борзда ўскоквае з ложка і апранаецца.

— Добра, добра, — згаджаецца яна. Усьміхаецца, цалуе яго й ідзе да кухні. Паранейшаму застаецца із сваім сэрцам, із сваім часам.

У габінэце сакратара райкому партыі на яго чакалі старшыня павету і сам сакратар партыі. Ён не марудзіў — прывітаўшыся зь імі, адразу загутарыў пра атрыманаю тэлеграму. Ён прынёс з сабой і йімя і прозьвішча тае жанчыны зь вёскі Пустазельля. I з таго дня пра тую жанчыну сталі ведаць у цэлай Менскай акрузе і мо па ўсёй рэспубліцы.

## II

Гэта быў ейны пачатак. Бы той драбняны, нярослы чалавечак закахаўся ён, бы паверыў у ейную адданасьць і шчырасьць памагчы ягоным клопатам.

Аднойчы раніцой, калі яна разносіла мешыва сьвіньням, прыйшоў старшыня калгасу й сказаў:

— Даканчаць карміць. Ты-ж, Матруна, памыйся — да павету паедзем. Ці не пра сьвіней слухаць хочуць? Здаецца, сёлета ня дохлі?

— Не-е...

Матруна паставіла цяжкое драўлянае вядро зь мешывам. Аблічча круглае й запацелае ад бульбяное пары і не ад лёгкае працы — насіць з варуўні цяжкія вёдры, жагнулася найперш спалохнай бялявасьцяй, а тады зачырванелася. Яна не спраўлялася із сваім уражаньнем, бо колькі часінаў глядзела на старшыню калгасу ўтаропленымі, няўцемнямі вачыма.

— Чаго стаіш? Не пазнала? Зьбірайся! Памыйся хоць крыху...

Зь яе заўсёды сьмяяліся. Таму яна супакоілася ад неспадзеўна пачутага, бо падумала, што старшыня адно паквіліў над ёй звычайным і бадай штодня чутым.

— Сам памыйся, — адказала яна, і зноў падымае вядро, пахіліўшыся ад ягонай цяжасьці на другі бок, нясе да сьвінарні. Там моцна крычыць на сьвіней: «хай вас воўк зарэжа!», б'екаторую пападзя па вушох, улучвае неперашкодную часіну ад выцягнутых саняў па пяску, ён-жа адразу зьнікае ў прагным похапку сьвіней. Некаторую вокмець Матруна пастаіць каля кажнай загародкі, паглязіць, як яны жыруць ды йдзе па наступнае вядро. Ненакормленыя падсвінакі зацяжліва пішчаць, маткі з парасятамі глуха рохкаюць. Матруна ўжо даўгія гады гадуе сьвіней, да іншае працы ня мела пацехі — ленавалася.

Старшыня ўзноў падыходзіць да яе.

— Я-ж пятлі языком не вяжу — зьбірайся, ня баўся.

Матруна адоньліва ўздыхнула. Яна баялася яго за сваю працу. Яна ведала, што жыве ў калгасе лепш за ўсіх. У варыўні, дзе парыліся асеўкі й бульба сьвіньням, яна мела невялічкі палок з разасланай па ім кулявой саломай, і было цёпла спаць. Цішком выціскала крухмал на продаж мястачковым Жыдам.

Бацькі ейныя ўжо даўно памерлі. З маемасьці нічога не пакінулі ёй. Яны таксама ня шмат патрабавалі дзеля сваей імнасьці: сыціліся бульбай, капустай або поліўкай з грыбамі. Нічым не спадзяваліся й нічога не шкадавалі, калі адыходзілі ў вечнасьць. Яны мо й не спакмецілі, як пражылі на сьвеце.

— Я зараз, — адказвае Матруна. Ейнае аблічча выказвала карціваcьць даведацца ад старшыні, папытаўшыся, што зназкай, горла сьціскалася, вусны, мабыць ад гневу, каларычыць: «пра сьвіней слухаць хочуць», аднак не адважвалася на гэта. Моўкна пайшла із сьвінарні да варыўні перапрануцца. У яе быў адзіны сьвяточны ўбор: шырокі андарак з малінавымі жычкамі й ралеевага колеру, з хатняга сукна жакетка ды старыя з даўгімі халяўкамі чаравікі, у якіх ейныя галені кароценькімі й тоўсьценькімі выглядалі.

Падагналі выязную брычку. Старшыня калгасу кепліва пасадзіў Матруну побач сябе. Сьцегануў па кані. Гадавальнікі жывёлы з другога двору моцна сьмяяліся з гэтага й пакрыквалі ўздагон саромныя словы.

I з таго часу, пасьля наведаньня павятовай управы, у Матруніным жыцьці ўсё зьмянілася. Пра яе пачалі пісаць у газэтах, часапісах, навет спаміналі ейных байцоў, хвалілі іх за дачку і зусім не паміналі, што калісьці бацьку адсеклі колькісь пальцаў за канякрадцтва. Матруна ўмела чытаць — пе-

